


**Рэгіянальная газета. Rh.by**


тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

19 студзеня 2018 года №3 (1186)

# Перад пачаткам дзяжурства жадаем "сухіх рукавоў"

**Пра тое, за што змену выратавальнікаў маладзечанскай пажарнай часці №1 узнагародзілі "За мужнасць", чытайце на старонцы 8-й. На фота пажарны Аляксандр Балыш.**

МАЛАДЗЕЧНА 1

**19 студзеня – Дзень выратавальніка**

Фота Наталлі ТУР.

## Нашчадак роду Сапегаў: "Што? Мяне ў палац да дармаедаў Радзівілаў? Не паеду!"

старонка 2

## Чаму лепш сціплы рост валавога ўнутранага прадукту, чым 10-працэнтны пад допінгам

старонка 3

## Чаму толькі беларусам зразумелы выраз "агульная млявасць", адказвае філолаг Вінцук Вячорка

старонка 21

## Футбол. Дырэктар ФК "Чысць": "Будзем гуляць у Маладзечне і з маладзечанскімі хлопцамі"

старонка 22

Сногсшибательные скидки на **ЗОЛОТО** и **СЕРЕБРО** до 45%

Золотая мечта ювелирная сеть



в магазинах «Золотая мечта» Молодечно
**Рассрочка** и **кредит** (без справки о доходах), оформление на месте.
*Порадуй своих любимых подарками*

по **ул. Притыцкого, 25** (возле универмага), тел. (80176) **770-055**
по **ул. Волынца, 7** (возле ателье "Берёзка"), тел. (80176) **777-923** ООО "Биграйм" УНП 691511104

# Нашчадак роду Сапегаў: “Што? Мяне ў палац да дармаедаў Радзівілаў? Не паеду!”

МАЛАДЗЕЧНА

**Як добра, што здараюцца ў жыцці сустрэчы, пасля якіх разумееш, якое шчасце было нарадзіцца на гэтай зямлі, зваць сябе беларускай.**

Так адбылося пасля сустрэчы з паэтам **Міхасём Скоблам** на занятках курсаў “Мова Нанова”, дзе ён прэзентаваў кнігу, у якой выступіў рэдактарам: “Гісторыя Сапегаў. Жыццяпісы. Маёнткі. Фундацыі”.



– Калі народзіцца новы Караткевіч, які захоча апісаць жыццё Сапегаў, то ён смела можа скарыстацца гэтай кнігай, дзе жыццё самых знакамітых прадстаўнікоў гэтага роду распісанае не тое, што па днях, а нават па гадзінах, – расказаў Міхась Скобла.

У кнізе апісваецца жыццё 85 прадстаўнікоў роду Сапегаў. Дзіўна, праўда? Мы большменш ведаем аднаго – канцлера ВКЛ **Льва Сапегу**, а тут аж 85!

І гэта не сухія біяграфічныя звесткі пра гетмана **Казіміра Яна** або генерала артылерыі і ўдзельніка паўстання 1794 года **Францішка**, мецэната паўстання 1830 года **Яўстаха Каятана** ды іншых, а такое падрабязнае апісанне, што дзіву даешся.

Напрыклад, Міхась Скобла расказаў, чаму на вокладцы кнігі не Леў, а Францішак.

– Францішак Сапега ў 21 год быў ужо генералам літоўскай арміі, быў паплечнікам **Тадэвуша Касцюшкі**. Але галоўная прычына, чаму ён скарыў маё сэрца і трапіў на вокладку кнігі, у тым, – кажа спадар Міхась, – што нас з Францішкам Сапегам яднае любоў да мястэчка Дзярэчын. У сваіх успамінах Францішак пісаў: “Я аб'ездзіў шмат краін. У Лондане мне было сыра, у Лісабоне – горача, у Парыжы тлумна, у Варшаве няма з кім пагуляць у карты. І толькі ў Дзярэчыне я знаходжу ўсё тое, да чаго ляжыць душа”.

**Прататыпам галоўнага героя кнігі французскага пісьменніка Эжэна Сю “Парыжскія таямніцы” барона Геральштайна быў Францішак Сапега.**

А пасля адбылося знаёмства Міхася Скоблы з апошнім прадстаўніком роду Сапегаў – **Яўстахам Севярынам Сапегам**, які ва ўзросце 83 гадоў наведаў Беларусь.

Адбылося гэта ў 1998 годзе.

– Мы з маім сябрам **Валянцінам Дубатоўкам**, шчыра кажучы, паўжартам адправілі ў Кенію тэлеграму Севярыну Сапегу. Адрас знайшлі ў Польшчы, у Акадэміі навук. А ўжо праз тры тыдні сустракалі князя Сапегу на чыгуначным вакзале ў Гродне.

Яўстах Севярын Сапега разам са сваім бацькам, тагачасным міністрам замежных спраў пры Пілсудскім, быў вымушаны бегчы з Беларусі ў 1939 годзе.

– Прыйшлі саветы, – расказвае Міхась Скобла, – сям'ю Сапегаў схапілі і адправілі на Лубянку, прыгаварылі да расстрэлу. І толькі дзякуючы таму, што бацька Яўстаха Севярына быў асабіста і добра знаёмы з **Чэрчылем**, які паслаў тэлеграму Сталіну, сям'ю Сапегаў выпусцілі з турмы.

У Кеніі Яўстах Севярын быў паляўнічым, арганізатарам сафары. І кнігу ўспамінаў пра сваю сям'ю пісаў у намёце, за якім рыкалі львы. А калі прыехаў у Беларусь, перадаў сваю кнігу Міхасю Скоблу са словамі:

**– Я хачу, каб кніга была выдадзена на мове таго краю, за які 500 гадоў са зброяй у руках змагаліся мае продкі.**




**Князь Яўстах Севярын Сапега, з караваем, падчас прыезду ў Беларусь у 1998 годзе. Міхась Скобла другі злева.**

Калі князь прыехаў у Беларусь, ён даволі жорстка адказаў на прапанову наведаць Нясвіж.

– Мы ехалі з Гародні ў Дзярэчын, але я ж не падумаў, трэба неяк паказаць князю Беларусь і прапанаваў: “Княжа, можа, заедзем у Радзівілаўскі палац у Нясвіжы?”

– Што? – абурыўся князь, – калі трэба было бараніць Айчыну, тыя дармаеды Радзівілы гарэлку пілі і на мядзвездзях каталіся. А вы мне прапануеце ехаць да іх! Не паеду!

Князь, вядома, меў права на такую рэакцыю, бо, па-першае, гэта суперніцтва двух вялікіх родаў, а па-другое, вядомы факт, што ў 1634 годзе, калі ішла вайна з Масковіяй, Сапегі за свае ўласныя грошы трымалі цэлае войска Рэчы Паспалітай.

Таму князя павезлі адразу ў Дзярэчын, гэта невялічкае мястэчка на Зэльвеншчыне, дзе знаходзілася асноўнае радавое гняздо Сапегаў.

Калі князя сустракалі хлебам-соллю, на касцёле зазваніў звон, сапегаўскі, 1717 года. І князь, узняўшы галаву, сказаў:

– Ён мяне пазнаў.

Князь хацеў адвезці ў Афрыку хоць цаглінку з былога палаца Сапегаў, але маёнтак разабралі ўшчэнт.

Затое, расказвае Міхась Скобла, у дзярэчынцаў да гэтага можна ў дамах пабачыць кафлю з сапегаўскім гербам, дзверцы ад печы, клямкі да дзвярэй.

А яшчэ спадар Міхась успамінаў, як шмат ведаў і помніў князь пра сваіх продкаў.

– Ён гаварыў і гаварыў з намі, увесь час нешта расказваў і прыгадваў. І пра свайго прапрадзеда Яўстаха Каятана Сапегу, у якога была мянушка Паўстанец, і пра тое, як у 1830-х гадах рабаваліся маёнткі Сапегаў. У Сапегаў на Беларусі былі 72 фамільныя маёнткі.

– Інакш як рабаваннем гэта не назавеш.

**Усе карціны, старадрукі, посуд, нават фіранкі з карнізамі вывозіліся ў Расійскую Імперыю.**

Але вось што цікава, каб Яўстах Каятан напісаў “чалабітную” на імя манарха Мікалая, то, канешне ж, маёмасць бы пакінулі. Але якую высокую годнасць мелі Сапегі. Не папрасілі, не прынізілі сябе.

Сёння ўсё багацце Сапегаў захоўваецца ў Эрмітажы ў Пецярбургу.

Карціна **Паола Веранэзе** “Пакланенне трох цароў”, якая вісела ў Дзярэчыне, цяпер каштуе мільёны долараў, вісіць у Эрмітажы. І, на жаль, вярнуцца ў Беларусь у яе шанцаў амаль няма. Бо ў Расіі прыняты закон, па якім нічога з культурнай спадчыны, з каштоўнасцяў, не можа быць вывезена за мяжу.

А яшчэ цікава было даведацца, што Марта Скаўронская, будучая расійская царыца Кацярына І, дачка слугі Сапегаў нейкага Скаўрона, які збег у Маскву пасля нейкай заварухі ў Беларусі.

І што Францішак Сапега, калі разводзіўся са сваёй жонкай, падарыў ёй горад Высокае і выдаў замуж за свайго далёкага сваяка Паўла Сапегу.

І што Сапегі яшчэ ў 17 стагоддзі называлі сваіх дзяцей беларускімі імёнамі: Алесямі і Міхасямі, Тэклямі і Анелямі і аддавалі дзяцей на дзядзькаванне.

Напрыканцы сустрэчы Міхась Скобла ўспомніў гісторыю, калі ён у 70-х гадах прыехаў у касцёл у Дзярэчыне, які тады быў у заняпадзе, заўважыў на падлозе пліты з нейкім надпісам на лацінe.

– Хапіла тады розуму перапісаць той надпіс і папрасіць перакласці яго. Бо калі пачалася рэстаўрацыя касцёла, падлогу залілі 20-сантыметровым пластом бетону разам з тымі плітамі і надпісамі. Цяпер да мяне звяртаўся ксёндз з просьбай паказаць месца, дзе былі гэтыя пліты, але хіба што засталося пад такім пластом бетону?

А напісаныя на гэтым помніку былі наступныя словы, якія гучаць, як барочны верш:

*“Юзафу Сапегу, дыяцэзіяльнаму кад'ютару Віленскага біскупа, рэферэндарыю Вялікага Княства Літоўскага, роднаму дзядзьку дзеля заслужанага ўшанавання, Міхалу Сапегу, падканцлеру Вялікага Княства Літоўскага, найлюбімейшаму дзядзьку, сэрца якога тут ляжыць, Казіміру Сапегу, бацьку найлепшаму, паручніку войска Вялікага Княства Літоўскага, кавалерам ордэна Белага Арла, мужам, аздобленым усялякімі цнотамі за Радзіму і дом свой. Князь Аляксандр Сапега, граф Учарэі, Высокім, Дзярэчыне, ваявода полацкі, польны гетман Вялікага Княства Літоўскага, кавалер ордэна Белага Арла і Святога Станіслава паставіў гэты помнік”.*



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99

# Чаму лепш сціплы рост ВУП, чым 10-працэнтны пад допінгам

**Старэйшы аналітык "Альпары" Вадзім Ёсуб пра тое, як валавы ўнутраны прадукт (ВУП) звязаны з дабрабытам насельніцтва і як павысіць тэмпы росту.**

Фота Megapolis-real.by.

Вадзім Ёсуб.

**– У студзені-жніўні 2017 года ВУП Беларусі вырас у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам на 1,6%, такім чынам, за 8 месяцаў быў амаль выкананы гадавы прагноз – улады прагназавалі рост ВУП на 1,7%. Гэта добрыя лічбы?**

– На мой погляд, ні ў эканоміцы, ні ў іншых галінах чалавечай дзейнасці паняцці добра ці дрэнна недарэчныя. Відавочна, што рост ВУП лепш, чым яго падзенне або стагнацыя. Але па сусветнай класіфікацыі Беларусь адносіцца да краін з рынкам, што фарміруецца. Гэта краіны, якія моцна адстаюць ад развітых краін. Нам трэба паказваць дастаткова моцны эканамічны рост, вышэй за сярэднесусветны, каб хоць бы ледзь-ледзь скараціць адставанне ад развітых краін па ўзроўні эканомікі, па ўзроўні жыцця людзей.

1,6% – гэта істотна ніжэй за сярэднесусветныя паказчыкі эканамічнага росту. Разрыў паміж беларускай эканомікай і эканомікай развітых краін толькі нарастае. Росту недастаткова, каб нашы людзі маглі на сабе якасна адчуць паляпшэнне ўзроўню жыцця.

**– Чаму ВУП у Беларусі ў апошні час альбо падае, альбо расце вельмі нязначна. Бо былі часы, калі ён рос амаль на 10% за год. Ці значыць гэта, што мы сёння лянуемся і дрэнна працуем?**

– Ранейшы рост складваўся з двух кампанентаў. Па-першае, былі звыштанныя пастаўкі энерганосьбітаў з Расіі, уключаючы нафту і газ. Калі ўвесь свет купляў энерганосьбіты па, умоўна кажучы, сусветных цэнах, то мы ў 2-3 разы танней. На такой халяве лёгка расці, як на дражджах. Па-другое, была рэгулярная эмісія грошай, працаваў друкаваны станок. Можна правесці аналогію са спартсменам, які прымае допінг. Дзякуючы яму будзе расці маса мышцаў або хуткасць, калі гаворка ідзе пра бегуна. Але цана будзе непазбежная: спартсмен падарве здароўе.

Калі ў нас працаваў друкаваны станок, гэта дазваляла расці прыстойнымі тэмпамі. Але якасць росту была нікуды не вартая. У нас была рэгулярная адна з самых высокіх у свеце інфляцый, фінансавыя крызісы, абвалы на валютным рынку. Можна рэзюмаваць, што такі рост нам не трэба.

Лепш мець сённяшні сціплы рост без рызыкі, што заўтра абваліцца валютны рынак, чым той рост, які быў за кошт напампоўвання эканомікі допінгам. Цяпер сітуацыя больш здаровая, чым у часы, калі мы раслі на 10% за кошт друкавання грошай.

Ёсць такое паняцце, як ўстойлівы рост. Трэба не проста, каб эканоміка расла, а каб расла пастаянна і без калапсаў.

**– Вылучаюць намінальны і рэальны ВУП. Намінальны ВУП расце пры інфляцыі ў сувязі з ростам цэн на прадукцыю і паслугі, а ў рэальным ВУП ўлічваецца, у якой ступені рост ВУП вызначаецца рэальным ростам вытворчасці, а не ростам цэн. Інфляцыя ў студзені-жніўні 2017 года склала 2,5%. Ці ёсць на самой справе рост ВУП?**

– У нас заўсёды паказваюць рэальны ВУП. Намінальны ВУП ніякага сэнсу не мае. Намінальны ВУП заўсёды карэктуюць з дапамогай дэфлятара. Разрыў паміж беларускай эканомікай і эканомікай развітых краін толькі нарастае.

**– Гэта значыць, лічбе 1,6% можна верыць?**

– Ёсць нюансы. ВУП лічыцца з пагрэшнасцю і шмат разоў ўдакладняецца. Пагрэшнасць можа даходзіць да 1-працэнтнага пункта. Тэарэтычна лічба 1,6% можа быць 0,6% ці 2,6%. Але баяцца адкрытай хлусні, думаць, што Белстат кагосьці ўводзіць у зман, не варта. ВУП цяпер лічаць пры дапамозе так званай сістэмы нацыянальных рахункаў, якая ў нас калісьці ўкаранялася з дапамогай кансультацый спецыялістаў міжнародных фінансавых арганізацый. У відавочных падвохах я Белстат вінаваціць не стаў бы.

**– Ці ёсць сувязь паміж ВУП і узроўнем дабрабыту насельніцтва?**

– Так, але яна не прамая. Пры першым набліжэнні можна сказаць, што калі ВУП будзе падаць, то будзе станавіцца горш, гэта кожны адчуе на сваёй скуры. Калі ВУП будзе аднаўляцца, то і дабрабыт адновіцца. ВУП – гэта ацэнка створанага краінай багацця. Але павелічэнне багацця краіны не гарантуе прапарцыйнага росту ўзроўню жыцця. Пытанне ў размеркаванні багаццяў.

**При жаданні можна атрымаць сітуацыю, калі ВУП расце, а дзяржава дадатковым багаццем распараджаецца бяздарна, і таму ніхто рост дабрабыту не адчувае.**

Хоць, думаю, такі варыянт – выключэнне з правілаў. Але, паўтаруся, дабрабыт неабавязкова будзе расці прапарцыйна росту ВУП. Для насельніцтва рост ВУП, вядома ж, лепш, чым упадак.

**– Што трэба зрабіць, каб павысіць тэмпы росту ВУП?**

– Каб павысіць ВУП у разы, трэба сур'ёзна змяніць структуру эканомікі, правесці глыбокія структурныя рэформы. Перш за ўсё яны павінны закранаць вельмі неэфектыўны сектар дзяржаўнай эканомікі. Ён не зарабляе, а марнуе грошы, зароблены іншымі сектарамі, іншымі прадпрыемствамі. Гэта не выпадковая сітуацыя для крызіснага года. Сектар дзяржэканомікі займаецца гэтым з году ў год. Без кардынальнага вырашэння праблемы моцна паскорыць рост беларускай эканомікі нельга. Эканоміка будзе залежаць выключна ад знешніх кан'юнктурных фактараў. Напрыклад, ледзь-ледзь падаражэла нафта, калійныя ўгнаенні, павялічыўся попыт на нашу прадукцыю ў Расіі – і мы сталі жыць крыху лепш. Патаннела нафта і ўгнаенні, зменшыўся попыт на прадукцыю – і мы сталі жыць крыху горш.

Зразумела, што гэтыя рэчы не ва ўладзе беларускага ўрада, ад нас нічога не залежыць. Для таго, каб быў сур'ёзны рост, трэба займацца сур'ёзнымі рэформамі, а не мадэрнізацыяй асобных прадпрыемстваў. У нас жа любая мадэрнізацыя – проста выкіданне грошай на вецер і ператварэнне неэфектыўных прадпрыемстваў у такія ж неэфектыўныя, але яшчэ і прыгнечаныя вялізнымі пазыкамі. Усю сістэму трэба мяняць. Для гэтага трэба палітычная воля. Рэфармаванне вялізнага дзяржсектара – няпросты, непапулярны занятак, у кароткатэрміновай перспектыве азначае рост беспрацоўя. Гэта тое, чым нашы ўлады не хочуць займацца гадамі. Але без гэтага выхад на ўстойлівы рост немагчымы.

**Таццяна ГАПЕЕВА, "Брэсцкая газета".**

**Даведка "РГ".** Валавы ўнутраны прадукт (ВУП) – адзін з найважнейшых паказчыкаў, які паказвае падлічаны ў рынкавых цэнах сукупны кошт усіх канчатковых тавараў і паслуг, выробленых за год ва ўсіх галінах эканомікі на тэрыторыі дзяржавы, створаных унутры краіны. **"Альпары"** – буйная брокер-кампанія, якая мае міжнародныя ліцэнзіі, што дазваляюць працаваць у сферы фінансавых рынкаў.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 11.01 | 18.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0146 | **1,9963** |
| Еўра | 2,4059 | **2,4410** |
| Злоты, 10 | 5,7563 | **5,8530** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,5423 | **3,5286** |
| Грыўня, 100 | 7,1084 | **6,9570** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **10.01** | **17.01** |
| Еўра | 2.3950/2.4200 | **2.4350/2.4500** |
| Долар ЗША | 2.0100/2.0300 | **1.9900/2.0020** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 10.01 | 17.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16.95 | **16,95** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | **5,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **1,00** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 5,70 | **4,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 10,00 | **8,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Капуста, 1 кг | 0,39 | **0,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **1,70** |
| Морква, 1 кг | 0,59 | **0,65** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **5,95** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,20** |
| Бананы, 1 кг | 2,00 | **2,39** |
| Вінаград, 1 кг | 4,70 | **4,95** |
| Гранаты, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **2,80** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,50 | **3,40** |
| Ківі, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Лімоны, 1 кг | 3,85 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,70 | **3,20** |
| Хурма, 1 кг | 3,20 | **3,70** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,89 | **1,89** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00 | **7,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,50 | **3,50** |

МОЛОДЕЧНЕНСКИЙ ФИЛИАЛ УНИТАРНОГО ПРЕДПРИЯТИЯ «МИНСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ БЕЛОРУССКОЙ ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ»

ПЕРЕВОДЫ личных и учредительных документов,

✔ английский
✔ немецкий ✔ испанский
✔ польский ✔ греческий
✔ французский
✔ итальянский
✔ литовский ✔ украинский

научно-технической, экономической, юридической, коммерческой документации и литературы, формационно-рекламных и справочных материалов и пр.

в том числе и для нотариального заверения

г. Молодечно, ул. Буховщина 60/1, пом. 54, 1 этаж
Тел.: (8-0176) 55-46-64, 55-46-65, 55-46-67
e-mail: tppm-mo@tppm.by, http://www.tppm.by
УНП 100144204

НАВІНЫ

## Пацярпелі ад махлярства ў "Аднакласніках"

ВІЛЕЙКА

11 студзеня ў РАУС Вілейкі звярнуліся тры мясцовыя жыхаркі. Жанчыны распавялі, што замовілі праз сацыяльную сетку "Аднакласнікі" адзенне і абутак, заплацілі грошы, але ад кастрычніка мінулага года – ні тавару, ні грошай, ні звестак аб прадаўцы.

У прадаўца, які ў "Аднакласніках" пазначаны як "ІП Тацціяна", жанчыны набывалі рэчы ад чэрвеня мінулага года. Праблем не было, усе заказы віляйчанкі атрымоўвалі.

А рэчы, замоўленыя і аплачаныя ў кастрычніку, не атрымалі. Пацярпелыя жанчыны стварылі групу ў той жа сацсетры і высветлілі, што ад "ІП Тацціяны" пацярпелі яшчэ 18 чалавек з іншых раёнаў.

Адна з жанчын замовіла рэчаў больш як на 500 рублёў, а атрымала на 300. Дзве другія замовілі ў межах 100 рублёў кожная і не атрымалі нічога.

– Цяпер міліцыя праводзіць праверку, – распавяла "Рэгіянальнай газеце" намеснік начальніка РАУС Вілейкі **Кацярына Млечка**. – Разліковы рахунак, на які пацярпелыя пералічвалі грошы, адкрыты ў Мінску.

## Пабіў нагамі дзверы машыны

МАЛАДЗЕЧНА

30 снежня мінулага года 32-гадовы маладзечанец адпачываў з сябрамі ў адным з бараў горада. Выпілі, захацелі дадому, а таксі не знайшлі.

Тады хлопцы папрасілі незнаёмага кіроўцу на мікрааўтобусе "Мерсэдэс" падвезці іх дадому. Кіроўца адмовіўся.

За гэта 32-гадовы мужчына некалькі разоў стукнуў нагой у дзверы мікрааўтобуса і разам з сябрамі ўцёк.

Гаспадар машыны дагнаў яго ў шостым мікрараёне, затрымаў і пазваніў у міліцыю.

Аказалася, што парушальнік судзімы за хуліганства і адбывае пакаранне без знаходжання ва ўстанове закрытага тыпу.

Па словах старшага следчага Маладзечанскага РАСК **Юрыя Багушэвіча**, сваімі хуліганскімі дзеяннямі мужчына нанёс страты гаспадару машыны ў 370 рублёў. Гэту суму парушальнік кампенсаваў. Аднак 9 студзеня на яго завялі крымінальную справу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

**Пожарный аварийно-спасательный отряд** приглашает на работу:
- **СПАСАТЕЛЯ-пожарного**
- **ВОДИТЕЛЯ категории С**

Условия приёма на работу: возраст старше 18 лет, годность по состоянию здоровья.
*Предлагается посменная работа, бесплатное обучение.*
Обращаться:
**Молодечно, ул. Я.Купалы,126-а**
(8-0176) **73-29-00**
**73-91-86**
(8-029) **640-21-41**
ПАСО учреждения «Минское областное управление МЧС» УНП 100092090

## Маладзечанку, што знікла 15 год таму, знайшлі ў расійскім манастыры

МАЛАДЗЕЧНА

Супрацоўнікі вышуку знайшлі жыхарку Маладзечна **Валянціну Пятроўну Калюту**, якая знікла ў 2003 годзе.

У выніку комплексу аператыўных мерапрыемстваў праз 15 гадоў пасля знікнення знойдзеная Валянціна Калюта 1975 года нараджэння.

Стала вядома, што маладзечанка знаходзіцца ва Уладзімірскай вобласці, у жаночым манастыры. Крымінальных абставінаў, звязаных з жанчынай, не выяўлена. Яе жыццю і здароўю нічога не пагражае.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

## На Свіры затрымалі браканьераў

МЯДЗЕЛ

Адразу пасля Новага года супрацоўнікі міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету затрымалі двух браканьераў на возеры Свір.

Мужчыны паставілі чатыры сеткі і злавілі 19 судакоў, пяць ляшчоў і аднаго карася. Улоў важыў 29 кілаграмаў.

Браканьераў з уловам на беразе сустрэлі інспектары.

Цяпер парушальнікі месяц заплацяць за шкоду, што нанеслі навакольнаму асяроддзю, 3 тысячы 185 рублёў. Таксама ў іх канфіскавалі сеткі, рыбу і лодку.

Парушальнікі нанеслі шкоду ў асабліва буйным памеры. Таму супраць іх завялі крымінальную справу. Мужчынам пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі.

Калі ў вас узнікаюць пытанні, што датычацца аховы дзікіх жывёл, рыбных і лясных рэсурсаў, вы можаце патэлефанаваць у Мядзельскую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету па тэлефоне **8-01797-50-7-40.**

**Уладзімір ХІЛА, намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

# Начальніка Маладзечанскага ГРАНС абвінавацілі ў карупцыі

МАЛАДЗЕЧНА

Пракуратура Мінскай вобласці па карупцыйным артыкуле ўзбудзіла крымінальную справу ў дачыненні да начальніка Маладзечанскага гарраайаддзела па надзвычайных сітуацыях **Вячаслава Грыня.**

У пракуратуры Мінскай вобласці пацвердзілі ўзбуджэнне крымінальнай справы, але ад каментароў адмовіліся. Выканальнік на дадзены момант абавязкаў начальніка Маладзечанскага ГРАНС **Андрэй Рабец** паведаміў, што Вячаслаў Грынь на бальнічным, і таксама адмовіўся пракаментаваць сітуацыю.

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам былы начальнік сказаў, што шакаваны весткай, паколькі ніякіх карупцыйных дзеянняў не здзяйсняў.

**Паводле mlyn.by.**

Вячаслаў Грынь кажа, што ніякіх карупцыйных дзеянняў не здзяйсняў.
Фота mlyn.by.

## Мінчаніна, які забіў жанчыну і закапаў труп на Вілейшчыне, асудзілі на 18 гадоў

ВІЛЕЙКА

Суд прысудзіў абвінавачанаму ў забойстве **Тацціяны Курсевіч** да 18 гадоў пазбаўлення волі.

Судовая калегія па крымінальных справах Мінскага гарадскога суда абвясціла судовую пастанову па крымінальнай справе ў дачыненні да 32-гадовага мінчука – **Яўгена Раздуева**. Ён прызнаны вінаватым у здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных п. 6 ч. 2 арт. 139, ч. 1 арт. 205, арт. 378 КК (забойства, учыненае з асаблівай жорсткасцю, таемны крадзеж маёмасці, крадзеж асабістых дакументаў).

Па сукупнасці злачынстваў шляхам складання пакаранняў канчаткова мужчыну прызначанае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на 18 гадоў з адбываннем у папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Суд таксама пастанавіў спагнаць з Раздуева кампенсацыю маральнай шкоды на карысць трох заяўнікаў – блізкіх сваякоў забітай – у агульным памеры 140 тысяч рублёў.

Па словах дзяржабвінаваўцы, матэрыяламі справы ўстаноўлена, што ў Раздуева ёсць аўтамабіль і лецішча ў Вілейскім раёне, на іх накладзены арышт у ходзе папярэдняга следства. Дадзеная маёмасць можа выкарыстоўвацца для выплаты сумы маральнай шкоды.

Прысуд не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны і апратэставаны ў адпаведным парадку.

Як паведамлялася, трагедыя адбылася 15 лістапада 2016 года. У сварцы мужчына наносіў Тацціяне Курсевіч удары нагамі і рукамі, потым узяў сякеру і тупой паверхняй ударыў два-тры разы па галаве. Труп паклаў у багажнік. У гэты час сын забітай знаходзіўся дома і нічога не чуў.

Раніцай мужчына адвёз хлопчыка ў школу, а затым на машыне адправіўся ў бок Маладзечна. Цела закапаў каля свайго вясковага дома ў Вілейскім раёне. У заяве аб злачынстве ён паказваў, што здзейсніў злачынства па неасцярожнасці. Маўляў, у той вечар ненаўмысна штурхнуў Тацціяну, яна ўпала, стукнулася галавой аб кут ложка і страціла прытомнасць. Загарнуўшы труп у прасціну і пакрывала, паклаў у багажнік і на наступны дзень закапаў.

З сярэдзіны лістапада 2016 года Тацціяна не выходзіла на сувязь са сваякамі і сябрамі. Заяву аб знікненні напісаў яе былы муж.

**Паводле БелТА.**

## У Маладзечанскім раёне згарэў дом, гаспадар выратаваўся

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося каля 6 гадзін раніцы ў вёсцы Пекары Гарадзілаўскага сельсавета.

На месца выкліку выехалі пяць адзінак тэхнікі. Дом гарэў адкрытым полымем, дах абрынуўся ўнутр. 68-гадовы гаспадар самастойна выбраўся з дома.

У выніку пажару драўляны аднапавярховы дом цалкам знішчаны. Будынак не быў абсталяваны аўтаномным пажарным апавяшчальнікам.

Прычыну пажару высвятляюць. Адна з меркаваных прычын – парушэнне правілаў выкарыстання печкі.

Маладзечанскі гарраайаддзел надзвычайных сітуацый нагадвае, што пажар можна прадухіліць, паклапаціўшыся загадзя аб выкананні простых патрабаванняў пажарнай бяспекі.

Нагадваем асноўныя правілы пажарнай бяспекі ў халодны перыяд года:
- печкі і коміны неабходна ачысціць, адрамантаваць і пабяліць, закрыць расколіны,
- нельга ўжываць для распальвання печак гаручыя, лёгка- і самаўзгаральныя вадкасці,
- на драўлянай падлозе перад топачнай адтулінай неабходна прыбіць металічны ліст памерам не менш за 50 на 70 сантыметраў,
- каб не дапускаць перапалу печы, рэкамендуецца паліць яе двачы-тры разы на дзень і не больш чым па паўтары гадзіны,
- за дзве гадзіны да сну неабходна перастаць паліць печ, каб прадухіліць рызыку атручэння чадам.

Рэкамендуем усталяваць аўтаномны пажарны апавяшчальнік, ён загадзя папярэдзіць вас пра пажар. Ніколі не пакідайце дзяцей без нагляду. Захоўвайце запалкі ў недаступных для іх месцах.

І памятайце: самай распаўсюджанай прычынай пажараў з'яўляецца курэнне ў ложку ў нецвярозым стане.

Выкананне дадзеных мер пажарнай бяспекі захавае жыццё вам і вашым блізкім.

**Аддзел інфармацыі.**

# Мэбля, з якой хочацца жыць

## Як пасля доўгіх пошукаў мы знайшлі найлепшы варыянт мэблі

**Як і многія маладыя сем'і, мы не адзін год марылі пра ўласнае жыллё. І вось нарэшце мара збылася, мы атрымалі сваю трохпакаёўку. Аднак квадратныя метры становяцца домам, калі ў іх пасяляецца ўтульнасць.**

Нашы з мужам бацькі адназначна рэкамендавалі нам набываць толькі "Маладзечнамэблю". У саміх і спальні, і секцыі з 90-х, а выглядаюць, нібы толькі з магазіна. Так, з якасцю натуральнага дрэва не паспрачаешся, але сям'і з двума дзецьмі-школьнікамі і катом трэба немалыя сродкі, каб абставіць усю кватэру. Некалькі тыдняў вывучалі прапановы розных мэблевых кампаній, і ў кожнай былі недахопы: танна, але з ДСП ці шкодных фарбаў, ці відавочна праставаты стыль, а некаторыя мадэлі ўжо ў магазіне выглядалі неактуальна.

У сваім доме хочацца, каб усё было дакладна і надзейна, гарманічна і прыгожа. Мы з мужам вырашылі, што так шмат працавалі і збіралі грошы не для таго, каб купіць танныя шафы і ложкі, якія праз некалькі год будуць выглядаць састарэлымі. Таму паехалі ў магазін "Маладзечнамэблі", каб хоць некаторыя рэчы ў доме былі салiднымі.

У маладзечанскім магазіне па Лібава-Роменскай нас адразу ж здзівіў пах. Ведаеце, у крамах таннай мэблі характэрны пах хімічных фабраў і лакаў, а тут пахне, як дома. Звяртаю на гэта ўвагу мужа, калі да нас падышла прадавец Настасся:

– Гэта наша галоўная "фішка" – абсалютная экалагічная чысціня прадукцыі. Нашу мэблю вырабляюць з высакародных матэрыялаў – дубу, вольхі і карпацкага буку, а пакрыццё толькі на воднай аснове.

Мы адразу сказалі, што пытанне цаны для нас вельмі важнае, на што Настасся адказала:

– Як і для ўсіх цяпер. Аднак мы прапануем мэблю рознай цэнавай катэгорыі. Ёсць бюджэтныя варыянты, дарагія і залатая сярэдзіна. Найбольш дарагія мадэлі, дзе фасад цалкам зроблены з масіву. А вось нашы перагародкі і палічкі ў ламінаце ці шпоне. Усе паверхні з ДСП ці МДФ закрытыя масівам ці палатном, пакрытым шпонам. Такі прынцып выкарыстоўваюць ва ўсім свеце.

– Скупы плаціць двойчы, – далучыўся да нашай гутаркі пакупнік, які якраз разлічваўся за камод. – Якасць масіву гаворыць сама за сябе. У мяне спальня "Саната", ложак з дубу. Я кожную раніцу прачынаюся, як толькі нарадзіўся! Раней ж у лес хадзілі, каб дрэва абняць і ўсе клопаты сышлі, а тут спіш і такой энергетыкай падзараджаешся, што ўвесь дзень бадзёры.

Аднак у мэблі важная і зручнасць у выкарыстанні. Настасся расказала, што гэта забяспечвае еўрапейская фурнітура найлепшай якасці. У мяккай мэблі выкарыстоўваюць толькі правераныя тканіны ці натуральную скуру высокага цыклу працы. Многія з іх маюць антывандальны эфект, і такім тканінам не страшныя нават вострыя кіпцюры нашага ката Чарныша. Напаўняльнікі таксама забяспечваюць доўгую і плённую службу.

Нам расказалі і тое, як кампанія дабіваецца выдатнай якасці мэблі. Для мэблі з масіву патрэбнае складанае дарагое абсталяванне, якім насычанае прадпрыемства. Галоўная адметнасць у тым, каб чалавек не ўмешваўся ў працу абсталявання, а толькі кантраляваў і кіраваў яе. Так пазбягаюць памылак, звязаных з чалавечым фактарам, і забяспечваюць высокую якасць прадукцыі.

### Як стварыць стыльны інтэр'ер

Мы з мужам прыгледзелі сабе спальню "Оскар", у гэтай жа серыі ідзе і набор для гасцінай. Мы ніяк не маглі выбраць, для якога пакоя ўсё ж абраць "Оскар". Тады Настасся падкінула выдатную ідэю – у адной стылістыцы можна абставіць усю кватэру, ад прыхожай да спальні, і дом будзе выключна гарманічным і ўтульным. Нам вельмі спадабалася думка, але ясна, што ў нас бюджэт больш сціплы, чым гэта ідэя. Але праблему нам вырашылі ў момант.

Настасся прапанавала скласці дызайн-макет кожнага пакоя ў спецыяльнай камп'ютарнай праграме. Ведалі ўсе дакладныя памеры, і пачалі разам ствараць наш будучы ідэальны дом. Вам не перадаць наша шчасце! Мы не адзін год марылі пра сваё жыллё, і амаль дэталёва ў марах і размовах абмяркоўвалі, што і дзе будзе стаяць. А цяпер мы расставілі ўсё на свае месцы і ўбачылі, якім цудоўным будзе наша жыллё!

Я спачатку перажывала, ці варта выбіраць "Маладзечнамэблю" для кухні. Аднак Настасся патлумачыла, што шафы пакрытыя спецыяльным рэчывам, і вільгаці не баяцца абсалютна. Усе камплектуючыя самыя сучасныя, бясшумныя даводчыкі, а пафарбаваць можна ў любы колер. Акрамя таго, танныя кухні з плёнкай на фасадзе ўжо ніяк не адновіш. А масіў пры жаданні можна перафарбаваць праз некалькі год, і кухня будзе як новенькая.

Мне вельмі хацелася, каб каля пліты ўсталявалі высокую шафу для бутэлек алею і спецый, а таксама шафу пад убудаваную посудамыйку. Аказваецца, можна замовіць любую шафу па індывідуальным памеры, а цана толькі на гэты модуль будзе вышэй на 25%.

Мы выбралі спальню, гасціную і прыхожую "Оскар" ў светлым варыянце і кухню "Соф'я". Доўга ваґаліся над выбарам канапы для залы – скура ці тканіна. Аднак, як нас навучыла прадавец, выбар пачынаць з вызначэння функцыі – яна будзе прызначаная для штодзённага раскладвання ці гасцявы варыянт. Так як нам пашанцавала з квадратнымі метрамі, нас задаволіла б версія, якую мяркуем раскладаць не часта. Мы выбралі канапу "Мока" са спружынным блокам "змейка", які забяспечвае павышаныя артапедычныя якасці. Такая канапа вытрымлівае вялікую вагу, і нават пры значных нагрузках не мяняе форму і якасць. Гэта тое, што трэба на выпадак, калі прыедуць гасціць нашы бацькі.

Мы не хацелі рабіць дзіцячую з мэбляй, як з садка. Вырашылі, што практычна абставіць пакой універсальнай мэбляй для любога ўзросту, а карэктаваць можна дэкор – пледы, падушкі, выявы на сценах. Таму абралі стол і шафу для кніг "Оскар", кампактны варыянт шафы са спальні "Оскар" і тахту "Ніка-5".

### Купляць не толькі прыемна, але і зручна

Мы адразу маглі набыць спальню і мэблю для дзіцячай. Даведаліся пра прыемны момант – пры поўнай аплаце на корпусную мэблю даецца 5% скідкі, а на мяккую 8%. Кухню прапанавалі ўзяць у растэрміноўку. Мы рыхтаваліся да такой патрэбы, таму мелі пашпарты, даведкі з месца працы аб зарплаце за апошнія 6 месяцаў і гарантыйныя лісты ад арганізацыі. Замест гарантыйнага ліста можна ўзяць паручальніка з даведкай аб даходзе за апошнія 3 месяцы. Гэтыя формы ёсць на сайце www.molodechnomebel.by.

Прыхожую і мэблю для залы вырашылі набыць праз год. Хаця мы і разлічвалі на больш сціплы варыянт, у сваім выбары цалкам упэўненыя. На мяккую мэблю кампанія дае 18 месяцаў гарантыі, на корпусную – 24. І нават пасля гэтага тэрміну можна папрасіць вырабіць дэталь, якая прыйшла ў неналежны стан. У кампаніі, якая 60 год працуе на нашай зямлі, сумнявацца няма прычын.

Дастаўляюць мэблю ў любы населены пункт, але лепш заказаць і зборку. Не эксперыментуйце і не правярайце мужа на трываласць, колькі б ён не храбрыўся, што збярэ ўсё сам. Так вы толькі сапсуеце і нервы, і мэблю.

Наша рашэнне ўхвалілі дзеці і бацькі, нават свякроў сказала, што гэта самы разумны выбар. "Маладзечнамэбля" – прадукцыя, якую праверыла ўся наша радня з Вілейкі, Смаргоні, і нават Астраўца.

Цяпер у нас прыгожая і стыльная кватэра, у якой хочацца жыць. Крыху цярпення – і мы створым дом, у якім не захочацца і не спатрэбіцца мяняць мэблю.

**Аліна ГАЛІНОЎСКАЯ.**

УНП 600203065




**Спальня, сталовая, гасціная, прыхожая, кухня – усю кватэру вы можаце вытрымаць у адным стылі, каб ваша жыллё было гарманічным і ўлагоджаным.**



**Прадавец Настасся зможа падабраць вам варыянт, які ідэальна ўпішацца ў ваш настрой, лад жыцця і інтэр'ер.**

### Адрасы магазінаў ЗАТ "Маладзечнамэбля" ў Маладзечне

☞ Вул. Металістаў, 1. *У асартыменце кухні, прыхожыя, мяккая мэбля.*
Тэлефоны: (80176) **77-61-76**, (8033) **665-18-81** (МТС)

☞ Вул. Лібава-Роменская, 83-а. *У асартыменце спальні, гасціныя, сталовыя, мяккая мэбля.*
Тэлефоны: (80176) **74-65-62**, (8044) **708-51-81** (Вэлком).



# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Вольва S60, 2002 г.в., 2,4 бензін, аўтамат. Т. (8-029) 3523694.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Мерсэдэс MB 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Опель-Астра Ф па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рэно-19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*

• ФВ-Турон, 2007 г.в., 1,9 TДІ, 77 кВт, сіні, добры стан. Цана дагаворная. Т. (8-029) 7580842.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазнева, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*


**СТО** ООО "Авто-Мотор- Плюс" УНП 690552830
- **Замена ГРМ, сцепления**
- **Восстановление суппортов**
- **Осмотр, ремонт ходовой**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя, турбин**
- **Шиномонтаж, аргон**

(80176) **58-10-30**, (029) **876-51-17**, (029) **335-48-04**, (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.


## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра на 3 паверсе ў Вілейцы. Т. МТС (8-033) 3209337, (8-033) 3209338.*

• 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі, 40 000 рублёў. Т. (8-029) 1679230.*

• 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

• Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• Дом жылы ў в. Кавалі Ільянскага с/с Вілейскага раёна. Ёсць гаспадарчыя пабудовы, лазня, калодзеж. Т. (8-033) 6611354, (8-029) 8525536.*

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у Вілейцы па вул. Стаханаўскай, 249. Т. (8-029) 7656724.

• Дом у Вілейцы, усе камунікацыі. Т. (8-033) 3209338.*

• Участак 10 сотак у Вілейцы. Т. (8-029) 8570225.*

### ЗДАМ

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-н Зеніт, з заключэннем дагавора. Т. (8-029) 6550799.*

• Пакой маладому спецыялісту ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*



## ПАСЛУГІ

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Агароджы, дах, навесы, казыркі. ІП Борчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-029) 5062372.*

• Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*


**Аккумуляторы BOSCH**
а также широкий выбор аккумуляторов других популярных брендов.
(8-0176) **58-12-48**, (8-029) **63-63-166**
**Принимаем старые АКБ**




www.batrix.by
ООО «Батрикс» УНП 691893243




## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

#### Будматэрыялы, сантэхніка

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*


КУП Содружество предлагает
**в аренду** торговые и складские **ПОМЕЩЕНИЯ**
в г. Вилейка
Обращаться по тел. (8-01771) **5-41-30**
УНП 600102234



*Размясці сваю аб'яву не менш за* **ТРЫ РАЗЫ**, *і яе прачытаюць у інтэрнэце на сайце* **Rh.by**


#### Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне

• Трактар МТЗ-80, 1988 г.в. Т. Вэлком (8-044) 5539968.*

• Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

#### Бытавая тэхніка

• Дзве швейныя машынкі Падольск б/у, ручныя. Шафка пад мыйку, новая, 60х60. Т. (8-0176) 550907.

#### Камп'ютары, TV, сродкі сувязі

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

#### Мэбля

• Распродаж мэблі б/у нядорага: кухня – 100 руб., тумбачка пад тэлевізар – 40 руб., электракамін – 15 руб., столік складны – 15 руб., дыван (ковёр) 1,5х2 – 60 руб., дыванчык авальны – 15 руб., набор для ванны – 15 руб., камплект штор – 40 руб., столевыя карнізы – 15 руб., тэлевізар – 40 руб. Т. (8-029) 6870310.

#### Жывёла, птушка, пчолы

• Парасяты белыя. Т. (8-029) 1467869, (8-029) 9073963.*

#### Іншае

• Ванна чыгунная 70х170 б/у, дзверы металічныя б/у з рамай. Т. (8-029) 8644845.*

• Распродаж: склад вокнаў ПВХ. ІП Борчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-029) 5045554.*

### КУПЛЮ

#### Бытавую тэхніку

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

#### Камп'ютары, TV, сродкі сувязі


**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
(8029) **762-78-98**
(8029) **332-67-79**
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413


• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*


**ЗИМА БЕЗ ХЛОПОТ!**
**АНТИФРИЗЫ готовые и концентраты, ТОСОЛ оптом и в розницу ДЁШЕВО!**
(8-0176) **58-12-48**
(8-029) **63-63-166**
www.batrix.by
ООО «Батрикс» УНП 691893243



**АККУМУЛЯТОРЫ**
**для автомобилей, источников питания, сигнализаций**
**продаём новые и покупаем старые**



ПРОВЕРКА АККУМУЛЯТОРОВ С ВЫДАЧЕЙ СПРАВКИ И ПРОТОКОЛА ИСПЫТАНИЙ
*Широкий выбор моторных, гидравлических, индустриальных масел, смазки, реагент AdBlue разливной, антифризы, техжидкости, запчасти к иномаркам*
Тел. (0176) **58-12-48,** (029) **63-63-166. www.batrix.by**
ООО "Батрикс" УНП 691893243

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бронзавыя статуэткі «Буды». Карціны рускіх мастакоў. Рукапісныя кнігі. Старадаўнюю ікону. Купляе калекцыянер. Т. Вэлком (8-029) 6550007.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя. Куплю шкуркі куніцы, выдры. Т.(8-029) 8552646.*

## ПРАЦА

**ПАТРАБУЕЦЦА**

• Вадзіцель-міжнароднік. Т. (8-029) 1338497.

• ПУП "Клімянок" запрашае на працу швачку 5 разраду і вышэй з досведам работы і уменнем шыць хутка і якасна. Адрас: г. Вілейка, вул. Шубіна, 31-а, УНП 691170347. Т. (8-01771) 77914, (8-01771) 77915, (8-029) 7671717.*

• У загарадны катэдж патрабуецца памочніца па гаспадарцы з пражываннем у г.Мядзеле. Т. (8-029) 7074438.

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Аддзелачнік. Усе віды работ. Вялікі досвед. Т. (8-029) 2775694.*

• Спілуем дрэвы, папілуем і паколем дровы. Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.*


Предприятию требуется
инженер-проектировщик
по разработке раздела проектной документации конструктивные решения
(наличие квалификационного аттестата обязательно).
Заработная плата согласно штатного расписания.
Контактный телефон: (8-01771)
5-47-22, 5-42-90.
УКС Вилейского р-на УНП 600010557

Двери Окна
◆ Входные ◆ Межкомнатные
◆ Скидки ◆ Рассрочка
КОЗЫРЬКИ
Замер
Доставка
Установка
Велком 8(029) 359-29-82
МТС 8(029) 559-29-82
ИП Платонов И.Н. УНП 692013467

• ТРУБЫ
• уголки
• швеллеры
• арматура
• листы
• сетка рабица
ИЗГОТОВЛЕНИЕ МЕТАЛЛОКОНСТРУКЦИЙ.
РЕЗКА. Доставка
Аренда автокрана
г. Молодечно, ул. Рабочая, 8а
(0176) 50-56-53
58-04-76 (факс)
(029) 196-90-23 (-43) (-53)
www.metallkontrakt.by/
ООО «Молметаллконтракт» УНП 691398156

КУПЛЮ
коня, КРС и др.
а также вынужденный убой.
Заберу личным транспортом.
Тел. (8-044) 777-44-48
(8-029) 393-92-56
ИП Жамойтин Д.В. УНП 590191739

ТУРБИНЫ
Ремонт в Молодечно
Тел. (8-029) 500-41-57
(8-029) 363-13-14
ИП Згрундо А.М. УНП 692017169


"Рэгіянальная газета"
шукае
**рэкламнага агента**
Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы.
Калі вы камунікабельныя, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівыя і адказныя, то дасылайце сваё рэзюмэ на адрас
reklama@rh.by.


Спутниковое и цифровое ТВ
Все виды услуг
Тел. (8-029) 561 39 72
ИП Новик С.С. УНП 691398368

На постоянную работу требуется
водитель экскаватора
Опыт работы
Оплата труда достойная
Тел. (8-029) 153-48-73
ЧУП «Мол Агрокорм» УНП 690305763

Предприятию требуются на молочную ферму
• ОПЕРАТОР машинного доения,
• ЖИВОТНОВОД по уходу за скотом (возможно расселение),
• ВОДИТЕЛЬ
Справки по телефону
Велком (8-029) 123-85-96
623-85-96
ЧТУП ДВЕ СТИХИИ УНП 690644985

УНП 690591512
ООО «Марк Формэль»
приглашает на работу:
Швей
трикотажных изделий
Контролера качества
Иногородним доставка к месту работы и обратно
Тел. (8-029) 604-00-74,
(8-0176) 50-56-46 – отдел кадров
(г. Молодечно, ул. Грамадовская, 47)

ПРИГЛАШАЕМ НА РАБОТУ ШВЕЙ
для пошива верхней женской одежды – пальто, куртки, плащи
✔ Пятидневная рабочая неделя
✔ Полный соц. пакет
✔ Своевременная сдельно-премиальная оплата от 550 рублей
✔ Три месяца доплата за обучение
Тел. (8-029) 181-53-22 Елена
ЧТУП «Твин Тип» УНП 190937032

Энергосберегающие окна из ПВХ
Ремонт окон любой сложности
Отделка откосов и лоджий
- низкие цены, честные скидки
- рассрочка без банков и без %
тел. 8 029 870 83 83
тел. 8 044 718 19 82
ООО «ОКНОГРАД» УНП 690639306

ООО «Май» УНП 600314071
ОКНА ДВЕРИ из ПВХ
НАМ 10 ЛЕТ
¤ Скидки до 30 %
¤ Рассрочка без %
¤ Кредит
¤ Москитная сетка в подарок!
Теплые откосы
Энергосберегающие стеклопакеты
(8-029) 676-26-88, (8-029) 563-90-08

ОКНА ДВЕРИ ПВХ
ДВЕРИ межкомнатные входные
• скидки пенсионерам и сельским жителям
• 12 лет на рынке
• рассрочка и кредит до 4 лет
• без справок и %
• замер, доставка, монтаж
8(033) 676-37-06, 8(029) 676-37-22
Семен Юрьевич
ИП Глушаков С.Ю. УНП 691396087

ДВЕРИ
входные от 350 руб.
СТАНДАРТНЫЕ И НА ЗАКАЗ
межкомнатные от 150 руб.
МДФ,экошпон, массив, шпон
ДВЕРИ-КУПЕ, АРКИ
ОКНА ПВХ
МЕБЕЛЬ
готовая и на заказ
горки от 350 руб. прихожие от 300 руб.
спальни от 550 руб. детские от 600 руб.
КУХНИ глянец, матовые, ЛДСП от 400 руб.
ШКАФЫ-КУПЕ
РАССРОЧКА до 2 лет, 0% предоплаты
Vel (044) 518-72-21 МТС (029) 283-75-22
ЧП "РайтЛайн" УНП 192583174


МОЛОДЕЧНОГАЗ

# Бяспека пры карыстанні газам у быце

**У наш час газ з'яўляецца незаменным памочнікам у кожным доме. Аднак варта ведаць, што гэта не толькі зручны, эканамічны від паліва, але пры няправільнай эксплуатацыі яшчэ і вельмі небяспечны.**

Кожны год у Беларусі адбываюцца няшчасныя выпадкі, у выніку якіх ёсць пацярпелыя, часам са смяротным зыходам. Трагічная іронія ў тым, что захоўванне жыхарамі самых элементарных правілаў, якія выкладзеныя ў дапаможніку па эксплуатацыі газавага абсталявання і ў Правілах карыстання газам у быце, дапамагло б пазбегнуць падобных здарэнняў і няшчасных выпадкаў.

У сувязі з паніжэннем тэмпературы вонкавага паветра павышаецца верагоднасць абмярзання агалоўкаў дымавых і вентыляцыйных каналаў для адводу прадуктаў згарання ад газавых праточных воданагравальнікаў, ацяплльных катлоў і апаратаў. Кожны год на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэгіструюцца выпадкі атручэння людзей ўгарным газам.

Пры спальванні газавага паліва і пры недастатковым паступленні паветра (закрытая фортачка, няспраўная вентыляцыя) з прычыны няпоўнага згарання выдзяляецца ўгарны газ (СО), які пры рабоце газавага ацяплльнага абсталявання сыходзіць у спецыяльна абсталяваныя дымавыя каналы. У прадуктах згарання змяшчаецца вадзяная пара, які кандэнсуецца на халодных паверхнях коміна. Пры няспраўнасці дымавых каналаў прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне. З прычыны чаго можа адбыцца атручэнне ўгарным газам.

Угарны газ у адрозненне ад бытавога газу не мае паху і з'яўляецца моцнадзейным ядам.

**Як выявіць угарны газ? Для гэтага выкарыстоўваюцца спецыяльныя дэтэктары ўгарнага газу.**

Усталюйце **дэтэктары ўгарнага газу (датчык СО)** на кожным паверсе вашага дома, паблізу спальных пакояў, для своечасовага папярэджання аб небяспецы.

Звяртаем вашу ўвагу, што **пажарныя апавяшчальнікі (датчыкі дыму), датчыкі (прыборы) выяўлення ўцечкі бытавога газу не выяўляюць угарны газ.**

Нагадваем, што наяўнасць у паветры ўсяго 1% угарнага газу – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.

Сярод усіх жыццёвых каштоўнасцяў, несумненна, самай важнай з'яўляецца само жыццё. Задача кожнага чалавека – берагчы жыццё і здароўе сваё і сваіх блізкіх.

Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, НАГАДВАЕМ:

- дымавыя і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць, а ў зімовы перыяд рэгулярна аглядаць агалоўкі названых каналаў для прадухілення іх абмярзання;

- дымавыя і вентыляцыйныя каналы належаць перыядычнай праверцы і прачыстцы:

**- ацяплльнага газавага абсталявання** – незалежна ад матэрыялу, з якога яны выраблены, – перад ацяплльным сезонам.

**- праточных газавых воданагравальнікаў** – у залежнасці ад матэрыялу, з якога яны выраблены: цагляныя – не радзей за 1 раз у 3 месяцы; азбацэментныя, ганчарныя, стальныя, а таксама зробленыя са спецыяльных блокаў гарачаўстойлівага бетону – не радзей за 1 раз у год.

Уладальнікі жылых дамоў і кватэр, дзе ўстаноўленае вышэйзгаданае газавыкарыстальнае абсталяванне, **абавязаныя** выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі стану дымавых і вентыляцыйных каналаў. Атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць.

**Пры эксплуатацыі газавыкарыстальнага абсталявання ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

- пакідаць без нагляду ў рабочым стане газавыя пліты, а таксама выкарыстоўваць іх для абагрэву памяшканняў;

- пакідаць адкрытымі вентылі балонаў, краны, якія знаходзяцца перад газавыкарыстальным абсталяваннем і на ім, пасля заканчэння карыстання гэтым абсталяваннем;

- самавольна падключаць, адключаць, рабіць перастаноўку, разборку і рамонт газавыкарыстальнага абсталявання;

- зрываць пломбы, устаноўленыя на прыборах уліку расходу газу, і ўмешвацца ў працу прыбораў;

- сушыць рэчы над полымем гарэлак газавай пліты;

- выкарыстоўваць для сну памяшканні, у якіх устаноўлена газавыкарыстальнае абсталяванне;

- эксплуатаваць газавыя катлы і воданагравальнікі пры няспраўных дымавых і вентыляцыйных каналах, пры адсутнасці цягі і актаў праверак тэхнічнага стану каналаў;

- выкарыстоўваць агонь для выяўлення ўцечкі газу з газаправодаў і газавыкарыстальнага абсталявання;

- карыстацца газавыкарыстальным абсталяваннем, якое знаходзіцца ў эксплуатацыі звыш 20 гадоў;

- уключаць газавыя ацяплльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;

- усталёўваць у памяшканні топачных душавыя кабіны, ванны, санвузлы.

**За парушэнне "Правілаў карыстання газам у быце"**, пры адсутнасці адпаведных актаў праверак дымавых і вентыляцыйных каналаў газазабеспячэнская арганізацыя мае права адключыць падачу газу спажыўцу.

Адказнасць за спраўны стан вентыляцыйных і дымавых каналаў ад газавых катлоў і газавых воданагравальнікаў, парушэнні патрабаванняў бяспекі пры эксплуатацыі бытавога газавыкарыстальнага абсталявання ўскладаецца на наймальніка (уласніка) жылых памяшканняў і дамоў.

**Паважаныя абаненты, не падвяргайце сваё жыццё і жыццё сваіх родных небяспецы.**

ВУ "Маладзечнагаз"
УНП 100008077




**Змена выратавальнікаў пажарнай часці №1. Злева направа: Аляксандр Балыш, пажарны, Андрэй Монід, начальнік змены, Сяргей Шакун, камандзір аддзялення, Раман Загорскі, вадзіцель, і Аляксей Лямін, камандзір аддзялення. Фота Наталлі ТУР.**

# "Мама, калі чуе пажарную сірэну, заўсёды тэлефануе: "Сынок, дзе ты?"

МАЛАДЗЕЧНА

**Пакуль у пажарнай часці не гучыць папярэджанне пра выклік на пажар і ў змены выратавальнікаў ёсць некалькі вольных хвілін, мы пагутарылі пра тое, чаму цяжка ратаваць людзей, чаму на некаторых выкліках даводзіцца затрымлівацца па 12 гадзін і што ў прафесіі выратавальніка ёсць такое, ад чаго гэтыя хлопцы кожны дзень рызыкуюць сабой.**

19 студзеня адзначаецца Дзень выратавальніка. Да гэтага свята, як правіла, МНС падводзіць вынікі года, узнагароджвае лепшых. Так атрымалася, што змену, з якой гутарым мы, адзначаць за мужнасць, бо менавіта яны, гэтыя адважныя мужчыны, выратавалі на пажары шэсць чалавек.

У канцы мая ў інтэрнаце на вуліцы Галіцкага пачаўся пажар. І змене выратавальнікаў, **Сяргею Шакуну**, **Андрэю Моніду**, **Аляксею Ляміну**, **Дзмітрыю Шпакоўскаму**, **Андрэю Хацько**, **Аляксандру Балышу**, **Вячаславу Крыўко**, **Раману Загорскаму і Аляксею Жуковічу**, давялося хутка прымаць рашэнне, як выратаваць тых жыхароў, што засталіся ў задымленым інтэрнаце на чацвертым паверсе.

– Ведаеце, расказвае Андрэй Монід, – на пажарах цяжка ратаваць людзей, бо некаторыя не хочуць пакідаць дом, дзе засталася ўся маёмасць, нехта шукае схаваныя грошы, а нехта проста ў паніцы хаваецца ў пакоі, які вось-вось згарыць.

Так было і на гэтым пажары.

– Маладая жанчына закрылася ў пакоі разам з маленькім дзіцем. Мы ідзём па задымленым калідоры, грукаем у кожныя дзверы, а яна не адгукаецца. Потым адчыняе дзверы, аддае нам у рукі дзіця і кажа: "Ратуйце яго, я тут застануся, мяне пакіньце". Пра што яна думала?

Якія думкі снуюць у галаве чалавека ў экстранных сітуацыях, невядома. А вось у выратавальнікаў на роздум часу няма.

Тады, на гэтым пажары, да вокнаў чацвертага паверха прыставілі пажарную лесвіцу, стралу, як яе называюць. І па гэтай хісткай лесвіцы выратавальнікі падымаліся некалькі разоў, каб выратаваць усіх.

**Сяргей Шакун, напрыклад, адначасова ўзяў на рукі дваіх дзяцей, каб зэканоміць час.**

У МНС расказалі, што калі дзіця ўчапілася за шыю, Сяргей зразумеў, што рукі ў яго вольныя, і ўзяў яшчэ адно дзіця.

Пра гэта расказалі ў МНС, бо сам Сяргей чамусьці пра гэта змаўчаў.

– Ну, ратавалі і ратавалі, кожны дзень ратуем, сціпла сказаў ён.

Насамрэч, кожны выклік можа быць непрадказальным і небяспечным.

– Неяк тушылі падвал, – кажа Андрэй Монід, – а там вада стаіць. Я ўзяў лыжную палку, патыкаў ёй у падлогу, здаецца, неглыбока, вады прыкладна па костачку, я ступіў і праваліўся. Таму што палкай мацаў прыступку. Добра, што за мной калегі стаялі, выцягнулі адразу.

– Таму мая мама, – кажа Аляксей Лямін, – яна працуе ў банку насупраць, калі чуе, што выюць сірэны на нашых машынах, заўсёды тэлефануе і пытаецца: "Сынок, ты цяпер куды?"

І сапраўды, хто можа ведаць, у якім кутку раёна сёння апынуцца выратавальнікі.

– А вось яшчэ не так даўно, – кажа Сяргей Шакун, – у нас былі два "любімыя адрасы". Гэта Лібава-Роменская, 129. Там быў закінуты дом, і яго "пастаяльцы", асобы без пэўнага месца жыхарства, вельмі любілі нешта падпаліць. І яшчэ тарфяны завод у Беразінскім. Там дакладна, як паедзеш, дык дадому вернешся праз 12 гадзін.

Здавалася б, што там такога ў прафесіі выратавальніка. Прыехаў, уключыў шланг, патушыў агонь і едзь сабе дадому.

А не. У працу выратавальнікаў, акрамя таго, што проста збіваецца полымя, уваходзіць так званая заліўка.

– Асабліва на тарфяным заводзе. Гэта трэба ўсе перакрыцці заліць, усе канструкцыі пераглядзець, каб не загарэлася паўторна.

Пасля гэтага трэба разабраць тое, што згарэла, раскідаць. А працаваць бывае даводзіцца ў поўнай цемры, калі нават ліхтарык не ратуе.

**– Не так даўно ездзілі на выклік на вуліцу Снежную. Там згарэў музычны цэнтр. Маленькі такі, каробачка, – расказвае Аляксей Лямін, – а сажы ад яго было столькі, што сцены, вокны – усё было такое чорнае, што нават з ліхтарыкам не было відаць далей за свой нос. Пры гэтым, на вуліцы быў дзень.**

Пажарныя расказваюць, што, акрамя ўзгаданняў, у якіх вінаватыя электраправодка або курэнне ў пасцелі, часцей за ўсё здараюцца пажары праз электрапрыборы. Халадзільнікі, дарэчы, на тым пажары ў маі на Галіцкага быў вінаваты якраз няспраўны халадзільнік, мікрахвалёвыя печы, электрычныя чайнікі, тэлевізары, камп'ютары – уся тэхніка, якую мала хто вымае з разеткі, і становіцца, часцей за ўсё, прычынай пажараў.

Аднак здараюцца ў практыцы выратавальнікаў і зусім нетыповыя выпадкі.

**Аднойчы выратавальнікам патэлефанавалі з вуліцы Вольнай, 4 і сказалі, што нешта вялікае заляцела ў галубятню на тэхнічным паверсе і вельмі гучна там сябе паводзіць.**

Прыехалі выратавальнікі і вызвалілі з тэхнічнага паверха вялізнага каршуна. Відаць, пагнаўся за галубамі і захрас там. Выратавалі, сфатаграфаваліся і выпусцілі на волю.

Звяртаюцца да выратавальнікаў і гаспадары катоў. Бывалі выпадкі, калі хатні гадаванец захрасаў у батарэі.

– А было і такое, – кажа Аляксей Лямін. – Прыносіць да нас жанчына ката ў ручніку, мокрага. І разам з ім кавалак трубы, калена ад ракавіны, ведаеце, са злівам. Расказала, што мыла ў ракавіне ката, а той кіпцюром зачапіўся за рашотачку зліва. І захрас. Палец у ката апух, назад выцягнуць не мог. Выратавалі.

Здараліся ў практыцы выратавальнікаў і выпадкі з дзецьмі.

– Ратавалі дзяўчынку з крэселца, – расказвае Андрэй Монід, – які ставіцца над гаршком, з дзірачкай такое. Дзяўчынка надзела тое крэселца на галаву. І смех, і грэх. Ну чыста прынцэса ў кароне была.

А вось дарослых, кажуць пажарныя, часцей за ўсё даводзіцца ратаваць з пярсцёнкаў.

На пытанне, ці прыходзяць пасля тыя, каго выратавалі, каб падзякаваць асабіста, Сяргей Шакун адказаў:

– Толькі аднойчы прыйшла жанчына, прынесла слоік варэння з клубніц. Ды і прычына была нязначная. Мы ёй, здаецца, хлеў патушылі. Але, як правіла, асабіста ніхто не прыходзіць, прыходзяць у аддзел, пытаюцца, хто працаваў тады, і пішуць удзячнасць у кнізе.

І першыя свае выезды на здарэнні пажарныя памятаюць, нягледзячы на тое, што ў некаторых працоўны стаж ужо больш за 20 гадоў.

І нязменным пажаданнем удачы для выратавальнікаў з'яўляецца пажаданне сухіх рукавоў.

А калі я спыталася, ці здараліся ў іх працоўных біяграфіях выпадкі, калі іх саміх даводзілася ратаваць, усе, як адзін, тройчы пастукалі па стале і разам уголас адказалі:

– Цьфу-цьфу-цьфу!

**Наталля ТУР.**




Крыніца дадзеных: Gemius SA, люты 2017, Беларусь. Інфаграфіка Аляксандры ПАРАХНІ.

# За маніторам – пустата,

## або Да чаго прыводзіць залежнасць ад камп'ютара

МАЛАДЗЕЧНА

**Спачатку чалавек садзіцца за камп'ютар, каб адпачыць, зняць напружанне, адцягнуцца ад сямейных праблем і цяжкасцяў на працы.**

Ключавы момант пераходу сітуацыі адпачынку ў прыхільнасць – узнікненне найманейшай псіхалагічнай залежнасці, якая аказвае свой негатыўны ўплыў на псіхічны стан чалавека і яго сацыяльны статус.

З развіццём хваробы ў арганізме чалавека пачынаюць адбывацца фізічныя змены: у каласальнай колькасці выпрацоўваюцца ўласныя ўнутраныя наркотыкі (эндарфіны) і стрэсавыя гармоны, з вялікай напругай працуюць сардэчна-сасудзістая, дыхальная і мышачная сістэмы, якія хутка высільваюцца, як і псіхіка. Адбываюцца змяненні ў асобе: паступова, як і пры іншых залежнасцях, нарастае дэградацыя.

Час за камп'ютарам становіцца сэнсам жыцця такога чалавека, усё астатняе – сям'я, праца, грамадскае становішча – больш не маюць значэння і адыходзяць на іншы план.

У чалавека, які застаецца знаходзіцца перад маніторам, з'яўляецца нервовасць, раздражняльнасць. Можа нарастаць агрэсіўнасць, якая абрушваецца на сам гаджэт і навакольных людзей, прыступы страху, праблемы са сном, кашмары і сны аб гульнях, панічныя атакі, пачуццё віны, дэпрэсія і суіцыды.

Неабходна памятаць аб бяспечным часе правядзення дзяцей і дарослых перад маніторам. Дзецям да 4 год лепш увогуле не знаходзіцца, 4-7 год – 20 хвілін, 7-12 – 40 хвілін, 12-18 – 1,5-2 гадзіны. Аднак не ў замен на занятк спортам, гімнастыку для вачэй, перапынкі і проста шпацыр на свежым паветры.

Аматарамі чатаў, як правіла, становяцца людзі, якія перажываюць інфармацыйны і камунікацыйны голад. Чалавек папаўняе прабел у пэўнай галіне ведаў. Таксама зносіны ў інтэрнэце прыцягваюць людзей з неразвітымі камунікатыўнымі навыкамі, якія не ўмеюць наладжваць кантакт з людзьмі вакол сябе. Ім прасцей мець невербальныя адносіны, набіраючы свае думкі на клавіятуры, або гаварыць па тэлефоне, не бачачы суразмоўцу. Гэта праблема можа быць з дзяцінства, калі чалавек, акрамя мамы, таты і бабулі з дзядулем, ні з кім не меў стасункаў.

На віртуальную залежнасць пакутуюць не толькі дзеці і падлеткі, але і дарослыя мужчыны і жанчыны. Толькі ўсё ж часцей пакутуюць хлопчыкі 10-16 гадоў і мужчыны 27-40 гадоў. Многія асобы мужчынскага полу, такім чынам, імкнуцца пазбегнуць рэальнасці, праблем у сям'і, адказнасці за сябе і свае ўчынкі, а таксама аказваюць уплыў інфантыльныя паводзіны, уласцівыя падлеткам.

Вярнуцца да рэальных ўзаемаадносінаў складана, але магчыма. Неабходныя ўласнае жаданне, сіла волі і матывацыя, а таксама ўсведамленне таго, што за маніторам пустата, жыццё праходзіць міма нас, тых, хто сядзіць насупраць гаджэтаў: растуць дзеці, бурацца сям'і, змяняецца свет, нарэшце. Азірніцеся, у свеце шмат цікавага, дзеля чаго варта жыць сапраўдным жыццём, а не віртуальным.

**Анжэла КЛІНЦЭВІЧ,**
**псіхолаг маладзечанскага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

# Калі залежнасць, дык толькі ад газеты

- Камп'ютары настолькі шчыльна ўвайшлі ў наша жыццё, што мы часам забываемся, як хораша піць раніцай каву ці гарбату за свежай газетай.
- Зрабіце гэта абавязковым рытуалам у пятніцу, калі выходзіць свежы нумар "Рэгіянальнай газеты", дзяліцеся навінамі з роднымі і блізкімі, і не заўважыце, як камп'ютар па пятніцах стане ўключаць толькі выключна дзеля працы.
- А пакуль некалькі цікавых фактаў:
- Калі ўпершыню вынайшлі кампакт-дыск, распрацоўшчыкі спрабавалі вызначыць, які ж аб'ём для яго патрэбны, і вырашылі, што CD-дыск павінны быць такім, каб змясцілася Дзявятая сімфонія Бетховена, якую можна прайграваць у любым тэмпе. А гэта займае прыкладна 72 хвіліны.
- Улады Кітая ўжо даўно забаранілі гульні, у якіх можна забіваць людзей.
- Распрацоўшчык гульняў GameStation вырашыў праверыць, ці чытаюць пагадненне карыстальнікаў людзі пры ўсталяванні яго прадуктаў, і для гэтага ўнёс у яго пункт "Вы аддаяце сваю душу краме". Некалькі тысяч карыстальнікаў гэтага нават не заўважылі.
- Па-беларуску значок @ няправільна называць сабакам. Мы называем яго слімаком.




- Самая распаўсюджаная прычына паломкі камп'ютараў – гэта пралітая вадкасць на клавіятуру.
- Калі Біл Гейтс будзе плаціць усяго толькі 1 $ кожны раз, калі ў кагосьці завісае Windows, то Microsoft стане банкрутам ўжо праз тры гады.
- У 1982 годзе часопіс Time назваў "чалавекам года" – камп'ютар.
- Паролем для сістэмы кіравання ядзернага ракетнага навядзення ЗША на працягу 8 гадоў служылі 8 нулёў.
- Прыблізна 1,4 мільярда людзей карыстаюцца інтэрнэтам.


## Падпісацца можна:

✓ праз сайт "Белпошты". Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам.

Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 50 капеек, на тры месяцы – 10 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 10 рублёў, на 3 месяцы – 30 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

## Лепшы сувенір зрабілі ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**Школьніца з Маладзечна Ганна Ягорава стала пераможцай XXI рэспубліканскай выставы-конкурсу дэкаратыўна-прыкладнай творчасці навучэнцаў "Калядная зорка".**

12-гадовая Ганна Ягорава трэці год займаецца валеннем воўны ў гуртку "Ваўняная лямпачка" Маладзечанскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік".

– Мы з дзецьмі злучылі ў назве гэтыя два словы, таму што кожнае з іх сімвалізуе цяпло, – тлумачыць кіраўнік гуртка **Марына Баслык**.

Для конкурсу дзяўчынка звалiла з воўны арыгінальную сумачку ў выглядзе сабачкі-таксы. Юная майстрыха прызнаецца, што з задавальненнем насіла б гэты аксесуар у паўсядзённым жыцці, як і ўпрыгажэнні, якія яна робіць сваімі рукамі.

– Творчы працэс заняў каля месяца. Спачатку я доўга разважала над тым, як будзе выглядаць мой сувенір, – успамінае дзяўчынка. – Калі даведалася, што заняла першае месца, была вельмі рада, ніяк не магла паверыць у гэта.

Усяго ў Нацыянальны цэнтр творчасці дзяцей і моладзі прадставілі больш за 550 работ.

На выставе дзяўчынка і яе педагог доўга шукалі свой выраб, але так і не знайшлі. Аказалася, што сумачка-сабачка трапіла ў лік сувеніраў, адабраных да навагодніх святаў.

– Прыемна, што мая праца камусьці прынясе радасць, – прызналася дзяўчынка.

У сваіх працах Ганна часта ўвасабляе жывёл, якіх яна вельмі любіць. Дома ў яе жывуць дзве марскія свінкі, а яшчэ яна марыць пра сабаку.

Цяпер дзяўчынка старанна займаецца валеннем, вывучае кітайскую мову і ў будучыні плануе стаць ветэрынарам.

**Карына МІКЛУШЫС, навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**



Фота аўтара

Ганна Ягорава з сумачкай-таксай.

## Вызначылі пераможцаў конкурсу на лепшае святочнае афармленне будынкаў

ВІЛЕЙКА

**Днямі ў Вілейцы падвялі вынікі раённага конкурсу на лепшае навагоднее афармленне будынкаў.**

Конкурс у сярэдзіне снежня ладзіў аддзел архітэктуры Вілейскага райвыканкама.

Як распавёў "Рэгіянальнай газеце" галоўны архітэктар Вілейскага раёна **Дзмітры Гарланаў**, журы вызначыла чатырох пераможцаў. На першым месцы – "Буддэталі" і "Зеніт-БелАМА", на другім – Вілейскі доследны лягсас, бронза – у малочнага камбіната.

Па словах Дзмітрыя Сяргеевіча, гэтыя будынкі ўпрыгожылі найбольш эстэтычна і прафесійна. Адзначыў таксама маладзечанскую мэблевую фабрыку і вілейскі водаканал.

– Дзякуючы гэтым прадпрыемствам віляйчанам не трэба было ісці ў цэнтр горада, каб стварыць сабе навагодні настрой, – лічыць галоўны архітэктар.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# "Хай тут лечацца тыя, хто дадумаўся з турмы зрабіць бальніцу"

## Жыхар Маладзечна – пра сітуацыю з вілейскім анкадыспансерам

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**У канцы мінулага года Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з пацыентамі Мінскага гарадскога анкалагічнага дыспансера і сказаў, што беларускія анколагі дастойныя Нобелеўскай прэміі.**




Фота забяспечанае Львом Чырвонцавым.

Жанна Гардынец: "Пра тое, што на сцяне вісела дошка, даведалася на днях. Чула, што яе знялі, каб не палохаць людзей".

Прачытаў і падумаў: што сказаў бы ён, калі б пабачыў анкадыспансер у Вілейцы?

Як можна зрабіць анкалагічны дыспансер для цэлага рэгіёна з былой турмы, якую пабудавалі 160 гадоў таму, у якой нават нявольнікаў трымаць адмовіліся, бязвінных людзей расстрэльвалі сотнямі, адразу тут і хавалі?

Раней на будынку вісела мемарыяльная дошка з надпісам "Тут, каля гэтай сцяны, нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі да пяці тысяч ваеннапалонных, партызан і мірных жыхароў у 1941-1944 гадах". Потым дошка знікла.

Многія чытачы "Рэгіянальнай газеты" 1 снежня 2017 года чыталі пра ініцыятыўную групу **Жанны Гардынец** і яе памочніц з Вілейкі, якія змагаюцца за перанос дыспансера з турмы ў іншае месца, але пакуль беспаспяхова.

### А ў турме-бальніцы нічога не змянілася

У прыбудове, дзе калісьці адпачывалі ахоўнікі турмы, зрабілі рамонт, абсталявалі кабінеты. А ў самой турме-бальніцы да сённяшняга дня нічога не змянілася. А праз гэты дыспансер і пакуты прайшлі ўжо тысячы безнадзейна хворых людзей.

Яны ўжо нічога не скажуць, але шмат могуць распавесці іх родныя пра клопат дзяржавы аб пацыентах у гэтым дыспансеры. Лічу, што сваякам хворых варта праз газету расказаць, з якімі цяжкасцямі яны сутыкнуліся. Трэба паказаць, што не адзінкі, а тысячы пакутавалі ў гэтым жахлівым будынку. І калі адносіны чыноўнікаў да гэтай сітуацыі не зменяцца, яшчэ тысячы будуць пакутаваць.

### "Завязі мяне дамоў, а то я сам пайду"

У 1984 годзе мой айчым захварэў на рак лёгкіх. Яго паклалі ў анкадыспансер у Вілейцы. Калі я прыехаў у чарговы раз наведаць хворага айчыма, ён, заўсёды спакойны і далікатны, мне катэгарычна сказаў: "Завязі мяне дамоў, а то я сам пайду. Я гэтай сцены і гэту парашу ў прыбіральні не магу забыць з трыццатых гадоў. Тут рускія, палякі і немцы замучылі тысячы людзей. Хай тут лечацца тыя, хто дадумаўся з турмы зрабіць бальніцу. Я тут паміраць не буду!"

Тады я забраў яго. Памёр айчым дома. А ў 1930-х гадах ён сядзеў у гэтай турме як савецкі шпіён.

У чэрвені 2014 года ў Бараўлянах зрабілі аперацыю маёй жонцы, у якой выявілі ракавую пухліну. Калі яе выпісвалі, сказалі адпачыць тры тыдні, а потым прыехаць на апраменьванне.

Па дамоўленасці з загадчыцай Рэспубліканскага радыелагічнага аддзялення **Ірынай Шалкоўскай** прыехалі зноў у Бараўляны. Загадчыца адразу сказала, каб хворая ішла афармляцца. Мы з дачкой адказваем, што яна не можа ісці, бо ў інвалідным вазку: вельмі баліць нага.

Тады Ірына Шалкоўская адпраўляе яе ў паліклініку, каб зрабіць дадатковыя аналізы. Зноў амаль дзень прахадзілі па розных кабінетах. І ўсюды чарга людзей з усёй Беларусі. Вечарам нам паведамілі, што дамовіліся з супрацоўнікамі вілейскага анкадыспансера і жонку адпраўляюць туды на лячэнне.

### Што можна зрабіць у такіх умовах для людзей, якія паміраюць

У Вілейку паехалі на наступны дзень. Галоўны доктар дыспансера сказаў, што ў іх чарга, класці няма куды, што з Бараўлянаў ніхто не тэлефанаваў дамаўляцца. Хворую ён нават не глядзеў.

Зноў паехалі дамоў. А жонка нават заснуць не магла ад болю. Не буду пісаць як, але назаўтра месца знайшлося і яе паклалі ў анкадыспансер. Жонку ў інвалідным вазку мы знеслі па той жахлівай нязручнай лесвіцы.

Канешне, ёсць у той установе самаадданыя, сумленныя дактары і медсёстры. Але што яны могуць зрабіць у такіх умовах для людзей, якія паміраюць?

Упэўнены, што ініцыятыўная група робіць вельмі патрэбную справу. Чым больш на гэту тэму адгукнецца людзей, тым хутчэй можа што-небудзь змяніцца. А ў анкалагічны дыспансер патэнцыйна трапіць можа кожны з нас.

У Маладзечне ў 1960-х гадах зачынілі старыя могілкі. Калі сваякі пахаваных настойвалі, прах пераносілі на новыя могілкі. На месцы старых усё зруйнавалі і хацелі аддаць пад індывідуальную забудову. Нягледзячы на тое, што зямельны ўчастак атрымаць нялёгка, ні адзін з тых, каму прапаноўвалі, не захацеў будавацца на былых могілках.

Анкалагічнаму дыспансеру не месца ў турме.

**Леў ЧЫРВОНЦАЎ, Маладзечна.**

# Хто пад Смаргонню не бываў, той вайны не ведаў

## Маладзечанец – пра падзеі Першай сусветнай у рэгіёне і не ўлічанае пахаванне на станцыі Пруды

*Заканчэнне. Пачатак у №2.*

МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ

**Аўтар гэтых радкоў звяртаецца да чытачоў "Рэгіянальнай газеты" з просьбай.**

Можа, у кагосьці ёсць дакументы, фотаздымкі, успаміны пра пахаванне на станцыі Пруды. Перадайце, калі ласка, копіі крыніц у рэдакцыю газеты. Магчыма, гэта дапаможа перавесці пахаванне з разраду не ўлічаных у разрад вайсковых. У далейшым месца будзе дагледжанае і там з'явіцца памятны знак.

### Адкуль у лебедзеўскай царкве палкавы грузінскі абраз

Падчас першай сусветнай перад станцыяй "Пруды" трымалі абарону Грузінскі, Тыфліскі і Мінгрэльскі грэнадзёрскія палкі. Шэфамі гэтых палкоў былі спадчыннік цэсарэвіч, вялікія князі **Канстанцін Канстанцінавіч** і **Дзмітры Канстанцінавіч**. Палкавы абраз Грузінскага палка мясцовыя жыхары перадалі ў царкву ў Лебедзеве.

Быў час, калі пад Смаргонню стаялі 14 гвардзейскіх Рускіх палкоў. Шмат людзей гублялі як немцы, так і рускія. Тады нават была распаўсюджаная прыказка: "Хто пад Смаргонню не бываў, той вайны не ведаў".

Як прыклад, хачу прыгадаць, што ўвесь 1916 год амаль кожны дзень немцы прымянялі атрутныя газы. Ні адзін процівагаз не вытрымліваў. Лес, трава – усё было выпаленае, жоўтага колеру.

25 верасня 1915 года за адзін дзень у штыкавым баі каля Залесся загінула пяць з паловай тысяч немцаў і тры з паловай тысячы рускіх. Пазіцыі ўтрымалі.

### Дачка Льва Талстога служыла на Маладзечаншчыне і Смаргоншчыне

Аляксандра Львоўна служыла сястрой міласэрнасці ў адным з санітарных атрадаў, які нейкі час месціўся ў Маладзечне ў будынку шасцікласнай рамесніцкай школы для хлопчыкаў. Цяпер гэта раён сярэдняй школы №1 імя Янкі Купалы.

Побач знаходзіўся санітарны атрад №28 – стары будынак трэста сталовых і рэстаранаў. Тут працаваў хірург па прозвішчы **Ярмоленка** – у далейшым прафесар палявой хірургіі Ленінградскага мединстытута.

У Заскавічах быў санітарны атрад №50 з амбулаторыяй і шпіталем на сто ложкаў у драўляным будынку сінагогі. Былі два фельчарскія пункты ў Беніцы і Ленкаўшчыне.

У Ленкаўшчыне знаходзіўся 27 эпідэмічны атрад з двума баракамі ў лесе для хворых на тыф.

Пазней санітарны атрад Аляксандры Талстой перамясціўся ў Залессе ў сядзібу Агінскага. Тут зрабілі лазарэт на 200 ложкаў. У Зарудзічах знаходзіўся Пермскі санітарны атрад. Побач, дакладна не ўстаноўлена месца, яшчэ два санітарныя атрады – Гродзенскі і Елісавецінскі.

Па ўспамінах Аляксандры Талстой, 2 жніўня 1916 года немцы восем разоў з перапынкамі ў 30 хвілін пускалі атрутны газ на Каўказскую грэнадзёрскую дывізію. "Процівагазаў у нас не было. Убачылі, як сабачка цягнуў шчанюкоў у балота на купіны. На вуснах стаяў гаркавата-рэзкі пах спелай вішні і міндаля. Мы кінуліся да балота. Там была праслойка чыстага паветра ў 20 сантыметраў. Пара ад вады не давала асядаць газу. Мы былі выратаваныя", – згадвае ў сваёй кнізе Аляксандра Талстая.

У той дзень насмерць атруцілі газам тры тысячы салдат і афіцэраў. Аляксандру Талстую ўзнагародзілі двума Георгіеўскімі срэбранымі медалямі "За храбрасць" трэцяй і чацвертай ступеняў.

Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года Салдацкі камітэт яе санітарнага атрада прыгаварыў сястру міласэрнасці да расстрэлу. Яна ўцякла ў Ясную Паляну. Жанчыну некалькі разоў арыштоўвалі органы, яна была ў турме. Па хадайніцтве сялян з Яснай Паляны Аляксандру Талстую вызвалілі. Праз Кітай яна з'ехала ў ЗША, у эміграцыю. Памерла ў 1979 годзе ў Нью-Ёрку.

### У 1917 у Палачаны і Крэва прыязджаў Аляксандр Керанскі

5 ліпеня 1917 года ў Маладзечна прыбыў жаночы ўдарны батальён.



Фота забяспечанае Віктарам ГОЛУБАМ.

**Генерал Уладзімір Джункоўскі зачытвае загад. Залессе, 1916 год.**

Яго сіламі атакавалі нямецкія пазіцыі. Загінула 50 жанчын, 200 былі параненыя, пісала ў рапарце начальнік батальёна **Марыя Бачкарова**. Жыццё гэтай жанчыны, поўнага георгіеўскага кавалера, скончылася трагічна. Бальшавікі расстралялі яе ў Іркуцку.

У тым жа 1917 годзе для падняцця баявога духу рускай арміі на цягніку на станцыю Палачаны прыязджаў старшыня Часовага ўрада **Аляксандр Керанскі**. А адтуль на машыне рушыў у Крэва у распалажэнне часцей 38 армейскага корпуса.

У Маладзечне ў тыя часы бывалі будучыя маршалы **Георгі Жукаў** і **Радзівон Маліноўскі**. У раёне Алёхнавічаў служыў ва Усурыйскай коннай брыгадзе Нерчынскага казацкага палка барон **Пётр Урангель**. Каля вёскі Заскевічы (цяпер Заскавічы) Мінгрэльскім палком кіраваў **Барыс Шапашнікаў** – палкоўнік царскай арміі, будучы начальнік генштаба Чырвонай Арміі. У гэтым палку служылі будучыя рускія пісьменнікі **Міхаіл Зошчанка**, **Валянцін Катаеў**, бываў санітар, а ў будучым таксама пісьменнік **Канстанцін Паўстоўскі**.

За станцыяй Пруды былі артылерыйскія склады. А з левага боку ад чыгункі дакладна бачныя дзве франтавыя дарогі таго часу. Падчас палявых работ у 1960-1970-х гадах людзі знаходзілі шмат падкоў, калючы дрот, брызентавыя кулямётныя стужкі, лыжкі з ініцыяламі, шмат нямецкіх і рускіх сапёрных рыдлёвак. Часам сустракаліся дзюралевыя або шкляныя біклагі, нямецкія спражкі. Знайшлі санітарную дзюралевую аптэчку са шкляначкай для камфары і морфію і люстэркам. Сёння гэтыя артэфакты знаходзяцца ў музеі **Барыса Цітовіча** ў Забродзі на Вілейшчыне.

### Генерала здзівіла мармуровая ванна ў фальварку

У сваіх мемуарах генерал **Уладзімір Джункоўскі** прыгадвае, што цягнікі з вайскоўцамі ішлі толькі да станцыі Маладзечна. Тут ваенныя часці разгружаліся з эшалонаў і пешшу 25 вёрст рухаліся ў бок Смаргоні.

На станцыі Маладзечна быў вакзал, вадакачка і некалькі дамоў чыгуначнікаў. Усё гэта было ў чыстым полі. Недалёка месцілася турма. Перад дамамі ўздоўж ракі ў выкапаных капанірах (нішах) размяшчаліся армейскія пякарні, дзе пяклі хлеб. Ваду бралі з ручая. Па начах абозы рухаліся да месцаў баявых дзеянняў.

Далей Джункоўскі піша: "У лютым 1916 года Сібірскі армейскі корпус, дзе я служыў, быў накіраваны ў фальварак Бысакошчына за дзве вярсты ад станцыі Пруды. 18 лютага наляцелі нямецкія аэрапланы. Корпус згубіў 50 чалавек забітымі. Бомба разарвалася ў садзе перад вокнамі панскага дома. Мяне здзівіла, што ў ванным пакоі дома была мармуровая ванна і быў праведзены водаправод".

Дзе пахаваныя 50 забітых, Джункоўскі не піша. Магчыма, ва не ўлічаным пахаванні на станцыі Пруды.

### Трэпанацыю чэрапа рабілі ў палявых умовах на станцыі Пруды

У адзін з дзён у Пруды прыбыў санітарны цягнік. З цягніка выгружалі памерлых і параненых і везлі на спецыяльным возе з плоскім кузавам хаваць.

"Мы былі запрошаныя як гледачы на вельмі складаную аперацыю. – піша далей генерал. – Унеслі няшчаснага салдата з раненнем галавы. Пасля таго, як далі наркоз, жанчына-хірург пачала трэпанацыю чэрапа. Яе рухі дзівілі дакладнасцю. Гэта была першая ў Расіі жанчына-хірург, прафесар, асабісты доктар царскай сям'і **Вера Гедройц**".

Пасля рэвалюцыі доктар збегла ва Украіну, жыла ў Кіеве, выкладала там ва ўніверсітэце на медфакультэце. Пасля таго, як у Кіеве ўсталявалася савецкая ўлада, Веру Гедройц арыштоўвалі дзесяць разоў. Але яе кожны раз выпускалі, бо ў Першую сусветную выратавала жыцці многім кіраўнікам ЧК. Нейкі час хавалася ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Памерла ў Кіеве.

Далей Джункоўскі прыгадвае сваё здзіўленне ад таго, што на наступны дзень той праапераваны салдат ачуняў і пачаў гаварыць.

Ад 1914 да 1918 фронт праходзіў ад Балтыйскага да Чорнага мора. Руская імператарская армія стрымлівала наступленне войскаў без загараджальных атрадаў войск НКВД, штрафбатальёнаў і незразумелых партызан.

**Віктар ГОЛУБ,**
**Маладзечна.**

● КАЛЯНДАР

**20 СТУДЗЕНЯ**

**1892.** Нарадзіўся **Браніслаў Тарашкевіч** (засц. Мацюлішкі, Віленскі павет, цяпер Літва), грамадска-палітычны і асветны дзеяч, мовазнаўца, публіцыст, перакладчык, літаратуразнаўца.

**1884.** Нарадзіўся **Аляксандр Сянкевіч**, беларускі пісьменнік, публіцыст, вучоны, дзяржаўны і партыйны дзеяч Беларусі. Расстраляны ў 1938 годзе.

**21 СТУДЗЕНЯ**

**200 гадоў** з дня нараджэння Адама Кіркора (1818 – 1886), гісторыка, археолага, этнографа і грамадскага дзеяча.

**1892.** Нарадзіўся **Рыгор Шырма**, грамадска-культурны дзеяч, харавы дырыжор, фалькларыст, публіцыст. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР (1939 – 1970). Народны артыст БССР і СССР. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. Сабраў больш за 2 тысячы беларускіх народных песень. Выдаў першыя зборнікі Міхася Васілька, Максіма Танка, Сяргея Крыўца. Памёр 23 сакавіка 1978 года.

**22 СТУДЗЕНЯ**

**155 гадоў** з пачатку нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863-1864 гг. супраць царызму за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. у Польшчы, Беларусі і Літве.

**23 СТУДЗЕНЯ**

**1884 год.** Нарадзіўся **Францішак Будзька** (в. Вознаўшчына, Вілейскі пав.), рымска-каталіцкі святар, культурна-асветны дзеяч, пісьменнік, перакладчык. Памёр 2 лютага 1920 года ад запалення лёгкіх.

**24 СТУДЗЕНЯ**

**1885.** Нарадзіўся **Юры Тарыч** (сапр. Аляксееў, 1885 – 1967), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст, заснавальнік беларускай мастацкай кінематаграфіі. У 1926 годзе зняў (сумесна з Яўгенам Іванова-Барковым) першы беларускі мастацкі фільм "Лясная быль" па аповесці Міхася Чарота "Свінапас". Дзень яго прэм'еры (26 снежня 1926 г.) лічыцца пачаткам беларускага кіно.

**1904.** Нарадзіўся **Янка Шутовіч** (в. Шутавічы, цяпер Смаргонскі раён), грамадска-культурны дзеяч, выдавец, літаратуразнаўца, вязень савецкіх канцлагераў.

**25 СТУДЗЕНЯ**

**1804.** Нарадзіўся **Антон Адынец** (в. Гейстуны, цяпер Ашмянскі раён), польскі паэт, філамат, перакладчык, выдавец.

**1869.** Нарадзіўся **Адам Гурыновіч** (фальв. Кавалькі, цяпер Мядзельскі раён), паэт, фалькларыст. Памёр у 1894 годзе ад чорнай воспы, якой заразіўся ў турме.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

НАВІНЫ

## “Заслужаным дзеячам культуры” стаў маладзечанец

МАЛАДЗЕЧНА

Аляксандр Лукашэнка ў сувязі з 80-годдзем Міншчыны ўзнагародзіў работнікаў гэтага рэгіёна. Сярод іх ёсць маладзечанец.

Урачыстае званне “Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь” прысвоілі намесніку дырэктара па вучэбнай рабоце Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага **Георгію Юрэвічу**.

Як паведамляе сайт Маладзечанскага райвыканкама, сёння вучні Георгія Юрэвіча спяваюць у Марыінцы і Вялікім тэатры, паспяхова выступаюць за мяжой. У 2009 годзе Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў педагога медалём “За працоўныя заслугі”.

**Аддзел інфармацыі.**

## Як мароз "прайшоўся" па вадаёмах

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Маразы апошніх дзён адчувальна “прайшліся”па вадаёмах рэгіёна.

Як распавялі ў Вілейскай выратавальнай станцыі, лёд на Вілейскім вадасховішчы ўжо дастаткова моцны. Яго таўшчыня – шэсць сантыметраў. Спецыялісты кажуць, што такі лёд ужо можа ўтрымаць чалавека. Таму на вадасховішчы пачынаюць з’яўляцца першыя аматары зімовай рыбалкі.

Па словах спецыялістаў з Мядзельскай выратавальнай станцыі, на возеры Мястра лёд моцны толькі ля берагоў – ад пяці да сямі сантыметраў. Далей можа быць і адзін-два. На вымоінах, дзе моцная плынь вады, лёд толькі пачынае зацягвацца. Таму тут рыбакоў яшчэ няма. Выратавальнікі толькі адганяюць дзятву, якая спрабуе коўзацца на лёдзе ля берагоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Астравеччыне – новы начальнік Следчага камітэта

АСТРАВЕЦ

Новага начальніка Следчага камітэта прызначылі на Астравеччыне, паведамілі ў Астравецкім райвыканкаме.

Дзмітры Марозаў нарадзіўся ў 1982 годзе ў Лідскім раёне.

Пасля заканчэння БДУ ў 2005 годзе пачаў працаваць у органах пракуратуры. Быў памочнікам пракурора Смаргонскага раёна, намеснікам пракурора Ашмянскага раёна.

Ад студзеня 2012 года Дзмітры Марозаў працаваў старшым следчым у смаргонскім РАСК. Жанаты, выхоўвае дачку.

**Аддзел інфармацыі.**

## У беларускіх школах з’явіцца факультатыў па фінансах

У Нацыянальным інстытуце адукацыі зацвердзілі праграму факультатыўных заняткаў па асновах фінансавай пісьменнасці.

Факультатыў уключае ў сябе такія тэмы, як сямейны і асабісты бюджэт, уласнасць і зберажэнні, прафесіі ў фінансавай сферы, грошы, лічбавы банкінг, інвестыцыі, падаткі і зборы.

Вывучаць фінансавую пісьменнасць будуць у восьмых і дзявятых класах.

**Паводле БелТА.**

## У Залессі адкрылі выставу Сяргея Савіцкага

МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ

У музеі-сядзібе Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі адкрылася выстава мастака **Сяргея Савіцкага** “Над часам і прасторай”.

Мастак нарадзіўся ў Забайкаллі. Ад 1975 года жыве і працуе ў Маладзечне. Жывапісам займаецца ад 1985 года. Ад 1992 года ўдзельнічае ў выставах у Беларусі і за мяжой. Асабістыя выставы ладзіў у Мінску, Вілейцы, Смаргоні, Маладзечне.

Выстава будзе працаваць на працягу студзеня і лютага.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Падвялі вынікі конкурсу малюнкаў на экалагічную тэму

ВІЛЕЙКА

Як распавялі кураторы праекта “Інфармацыйны цэнтр аб працы ЖКГ”, У Вілейцы падвялі вынікі творчага конкурсу малюнкаў “Хопіць смецце памнажаць, лепш яго рассартаваць”.

Журы вылучыла работы, якія ўвайшлі ў спецыяльны каляндар на 2018 год. Прадстаўнікі грамадскай арганізацыі “Экапартнёрства” прыехалі, каб асабіста ўручыць удзельнікам конкурсу, школьнікам Вілейшчыны, дыпломы і памятныя падарункі – календары, салодкія пачастункі і экасумкі з лагатыпам арганізацыі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Шчодры вечар адзначылі па-ўкраінску



Леанід Лысакабылка чытае байку.



Ясенія Мікуліч зачаравала абаяльнасцю, цудоўным голасам і жоўта-блакітным строем.

МАЛАДЗЕЧНА

**13 студзеня маладзечанскае культурна-асветніцкае таварыства ўкраінцаў “Краяны” сумесна са сталічным хорам украінскай песні “Крыніца” зладзілі канцэрт украінскай песні.**

– Культура беларусаў – шматнацыянальная. Яе дапаўняюць культуры іншых народаў, – пачала канцэрт вядучая **Настасся Шпілеўская**.

А працягнуў народны хор украінскай песні “Крыніца”. Калектыў пад кіраўніцтвам **Маргарыты Кучук** прыехаў з Мінска. У іх выкананні гучалі калядныя народныя песні і песні ўкраінскіх кампазітараў.

У некаторых калядных спевах заўважалася яўнае падабенства з падобнымі творамі беларускага фальклору. Узяць хаця б калядку “Каза”. “Дзе каза рогам – там жыта стогам. Дзе каза нагой – там жыта капой”.

13 студзеня, на шчодры вечар, моладзь на Украіне спраўляла абрад шлюбу Маланкі і Васіля, распавяла кіраўнік хору Маргарыта Кучук. Шчодры вечар ва ўкраінцаў называюць святам Маланкі, а стары Новы год – святам Васіля.

З раніцы гатавалі шчодрую куццю, а ўвечары хадзілі па хатах і вадзілі з сабой “Маланку”, што засцерагала вяскоўцаў ад нячыстай сілы. Тэатральнае дзейства суправаджалася песнямі. Адзін з такіх старажытных абрадавых твораў заспяваў хор.

А потым песні на ўкраінскай мове гучалі ў выкананні маладзечанцаў – салісткі “Краянаў” **Ясеніі Мікуліч**, дуэтаў **Дар’і Місюк** і **Алесі Ушаковай**, **Алы Шэкі** і **Марыі Рудык.**

А вось маладзечанец **Віктар Сыракваш** спяваў па-беларуску. Ён самастойна пераклаў на родную мову дзве ўкраінскія народныя песні і выканаў на канцэрце пад уласны акампанемент.

– Сёння ўкраінскі народ перажывае не лепшыя часы. Але ў такіх умовах маім землякам заўсёды дапамагала пачуццё гумару, – так пачаў сваё выступленне старшыня таварыства “Краяны” **Леанід Лысакабылка**, які прачытаў урывак з гумарыстычнай байкі.

### “Краяны” – значыць, землякі

У прыватнай размове Леанід Міхайлавіч распавёў пра дзейнасць “Краянаў”. Украінская дыяспара – адна з самых актыўных сярод тых, што ёсць у Маладзечне. А дыяспар у горадзе пяць. Акрамя ўкраінцаў, ёсць грэкі, палякі, рускія і яўрэі.

Існуюць “Краяны” ад 1991 года. Назва перакладаецца як “землякі”, людзі аднаго краю. Леанід Лысакабылка, ураджэнец Харкаўскай вобласці, кіруе таварыствам ад 2003.

Уласнае памяшканне атрымалі ў 2015 дзякуючы дэпутату **Людміле Канановіч**. Сёння ў пакоі таварыства – украінскія кнігі, плакаты, сімволіка і сувеніры, гардэроб з канцэртнымі касцюмамі, музычнае абсталяванне, дзе можна паслухаць песні на ўкраінскай мове.

– Быў вельмі рады, калі мы атрымалі памяшканне, – дзеліцца Леанід Міхайлавіч. – Цяпер сябрам таварыства ёсць дзе сабрацца, куды прынесці ўкраінскія рэчы, якія да гэтага захоўваліся ва ўласнай кватэры.

**На сённяшні дзень у таварыстве 50 сяброў. Найбольш актыўныя з гэтага спісу – чалавек 10-12.**

Гэта тыя людзі, што ўдзельнічаюць у канцэртах, кожны месяц наведваюць сходы таварыства. На сходах ладзяць гутаркі пра вядомых украінскіх дзеячаў **Тараса Шаўчэнку**, **Лесю Украінку**, **Піліпа Орліка**.

“Краяны” сумесна з мінскім грамадскім аб’яднаннем украінцаў “Запавіт” паспрыялі ўсталяванню памятнага знака ў Касуце на Вілейшчыне – на радзіме Піліпа Орліка. Цяпер штогод ладзяць там мерапрыемствы памяці гэтага грамадскага дзеяча.

Старшыня звяртае ўвагу, што “Краяны” – выключна культурна-асветніцкае таварыства. Яно не займаецца палітыкай. На палітычныя тэмы магу паразважаць, але толькі ў прыватных гутарках, кажа старшыня.

Як вырашае таварыства набалелыя фінансавыя праблемы? Па статуце яно можа прымаць грашовыя ахвяраванні, прадугледжаныя і членскія ўнёскі. Але, па словах Леаніда Лысакабылкі, расходы заўсёды значна перавышаюць даходы. Таму, як прызнаўся Леанід Міхайлавіч, “Краяны” існуюць на пенсію старшыні.

Таварыства мае сваю вышывальшчыцу. Гэта выкладчыца аднаго з маладзечанскіх каледжаў – **Дар’я Ясюкевіч**. “Музычную частку” забяспечваюць **Дзмітры Рудык**, **Яўген Гарчанін**, **Уладзімір Лях**, Ала Шэка, Марыя Рудык, Ясенія Мікуліч.

Не ўсе з іх маюць украінскія карані. Але, паводле статута “Краянаў”, гэта неабавязкова. Тут прымаюць людзей любой нацыянальнасці. Дастаткова, каб сябры таварыства паважалі ўкраінскую мову, цікавіліся гісторыяй і культурай Украіны.

Штогод “Краяны” з поспехам удзельнічаюць у рэспубліканскім фестывалі нацыянальных культур. У пакоі таварыства – дыпломы, фотаздымкі, шматлікія падарункі. А яшчэ “Краяны” з Маладзечна ўвайшлі ў кнігу “Этнічныя супольнасці Беларусі”.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Не смяшыце мае прыназоўнікі!

МАЛАДЗЕЧНА

**Больш ёмістым выразам, бадай, цяжка назваць сустрэчу з мовазнаўцам філолагам Вінцуком Вячоркам, якая адбылася ў нядзелю, 14 студзеня.**

Вінцук Вячорка, акрамя прэзентацыі сваёй другой кнігі, якую ён так і назваў "Не смяшыце мае прыназоўнікі", расказаў пра тое, што нават тыя беларусы, якія падчас перапісу насельніцтва кажуць, што іх мова руская і беларускай, тым не менш, самі таго не ведаючы, гавораць па-беларуску.

У якасці доказу, Вінцук Вячорка прывёў такія словы, якія вядомыя адным беларусам. Напрыклад: шуфлядка, шуфель, клямка, квач, ссабойка, знічка, хапун. А таксама слова тудою.

– Якое эканомнае слова, праўда? – пытаецца аўтар кнігі. – Як яно эканоміць час, не трэба распісваць маршрут, дастаткова рукой паказаць напрамак і сказаць: "Тудою". І цябе зразумеюць.








Вінцук Вячорка не толькі распавёў пра сваю кнігу, але і падарыў па экзэмпляры кожнаму з прысутных. У кнізе пакінуў аўтограф: "Каб натхняліся беларушчынай".

**Выраз "цырк на дроце" зразумелы таксама толькі беларусам, ні адзін з народаў так не кажа, нават суседзі палякі ды ўкраінцы.**

Пры гэтым, незразумелая этымалогія паходжання гэтага выразу, як і выразаў, якія могуць працягнуць толькі беларусы: "Хавайся ў…", "Агульная млявасць і …".

– Сапраўды, бульба ж расліна нізкая, чаму менавіта ў яе хаваліся нашы продкі? Невядома. Ва ўкраінцаў, напрыклад, такі ўстойлівы выраз гучыць: "Хавайся ў кукурузу".

Ну, а выраз агульная млявасць і абыякавасць да жыцця, напэўна, знаёмы кожнаму беларусу ад нараджэння.

– Мяне вельмі абурае, як складзеныя пытанні ў нашым перапісе насельніцтва, – кажа спадар Вячорка, – бо яны сфармуляваныя вельмі катэгарычна. Ці размаўляе вы па-беларуску? І чалавек думае: хіба я размаўляю па-беларуску так, як па радыё ці тэлебачанні? І піша ў графе адказ не. Для прыкладу пытанні пра валійскую мову ў англійскім перапісе насельніцтва былі сфармуляваныя прыкладна так: "Ці разумееце вы валійскую мову", "Ці можаце на ёй размаўляць", "Ці ўжываеце словы з гэтай мовы?" "Як часта". І карціна атрымоўваецца зусім іншая. У перапісе 2009 года сваёй роднай беларускую мову назвалі 35% насельніцтва, а ў наступным добра, калі будзе 20%.

І вось самыя цікавыя моманты з кнігі, якія агучыў Вінцук Вячорка падчас сустрэчы.

## Беларусы жэняцца з кімсьці, бо паважаюць абаіх удзельнікаў мерапрыемства

Па-першае, пагутарылі пра прыназоўнік па.

– У беларусаў прыназоўнік па, калі паказвае месца ці прастору, патрабуе меснага склону: гуляць па горадзе, лазіць па дрэвах. У рускай жа мове прыназоўнік па ўжываецца з давальным склонам.

Мовазнаўца прыгадаў, што і сярод расійскіх філолагаў ідзе спрэчка наконт таго, што прыназоўнік па становіцца быццам пустазеллем. Калі раней гаварылі: ателье ремонта, план сдачи молока, футбольная встреча, то цяпер часцей за ўсё можна пачуць: ателье по ремонту, план по сдаче молока, встреча по футболу.

– Але навошта нам пераносіць на беларускую глебу чужыя стылістычныя праблемы? – пытаецца Вінцук Вячорка.

Мы ўвогуле замест ісці па дарозе можам казаць ісці дарогаю, працаваць не па панядзелках, а штопанядзелак, не спаць па начах, а спаць начамі.

Аднак без прыназоўніка па беларусам усё ж не абысціся.

– Мы не можам пайсці за вадой, бо хто ведае, куды гэта плынь нас завядзе. Беларусы ходзяць па ваду.

Але да шлюбу.

– Калі мужчына пабраўся шлюбам, па-беларуску пра яго скажуць: "Алесь ажаніўся з Наталляй". А не на Натальe, як сказалі б у Расіі. Пры жаданні ў розніцы прыназоўнікаў можна ўгледзець нават розніцу ў статусе жанчыны. Па-беларуску яна раўнапраўная ўдзельніца падзеі, па-расійску ж – падпарадкаваны аб'ект. Так што трымайцеся сваіх прыназоўнікаў, – заклікае аўтар кнігі.

## Не хадзілі ніколі беларусы ў госці з посахам!

Узрушаўся на сустрэчы Вінцук Вячорка і вядомай песняй калектыву "Бяседа" "Чарка на пасашок".

– Які-такі пасашок? Што за радок пра чарговую-аглаблёвую? Ніколі ў беларусаў слова пасашок не асацыявалася з чаркай. Слова посах вядомае, пасашком маглі называць і булачку, але ніяк не чарку. Гэта толькі расійскае слова хаця б таму, што ніколі беларусы ў госці з кіем не хадзілі. Нашы продкі, як прыстойныя шляхцюкі, ездзілі ў госці на кані, таму і пілі чарку " аглаблёвую", або "страмянную", або "капытковую". Увага, не спачатку аглаблёвую, а потым страмянную і капытковую, а толькі адну. Ці тую, ці тую. Прынамсі, зімой пілася чарка "на рукавічку".

## Калі ў роце ёлка, час заканчваць святкаванні

І нарэшце, Вінцук Вячорка развеяў усе сумневы наконт таго, як правільна казаць: ёлка, ялінка ці елка.

– Слова ёлка ў беларускай мове мае значэнне горка, прыкра ў роце. Амаль усе беларусы ведаюць слова ёлкі, гэты прыметнік апісвае непрыемны смак сапсаванага масла або сала. Таму відавочна, што дрэва, тым больш дрэва святочнае, не можа называцца таксама ёлкай. Таму, чаму б не карыстацца прыгожым словам ялінка, якім карыстаўся **Якуб Колас**:

*А ялінка!*
*Чаго толькі*
*На яе няма галінках!*
*Свецяць зоркі*
*і вясёлкі*
*У бліскучых*
*павуцінках.*

Карацей, калі трапіцца вам гэтая кніга ў рукі, чытайце, здзіўляйцеся, як мала ведаем пра нашу мову і як многа, самі таго не ведаючы, ёю карыстаемся.

**Наталля Тур**
**Фота аўтара.**

ФУТБОЛ

## Мікалай Мятліцкі: “Будзем гуляць у Маладзечне і з маладзечанскімі хлопцамі”

МАЛАДЗЕЧНА

У футбольным сезоне цяпер зацішша, але толькі не для каманды з Чысці і яе кіраўніка **Мікалая Мятліцкага**.

Да 20 лютага неабходна прайсці працэдуру ліцэнзавання ў першую лігу, а працы, па словах кіраўніка каманды, яшчэ не пачаты край.

– Літаральна ўчора я быў на сустрэчы са старшынёй Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандрам Яхнаўцом**, – кажа Мікалай Мятліцкі, – ён настроены станоўча, але ёсць і цяжкасці, у першую чаргу з фінансаваннем.

Мікалай Мятліцкі разумее, што для ўладаў гэты досвед новы, бо апошні раз каманда з раёна гуляла ў першай лізе амаль 20 гадоў таму.

– Ведаю, што тэлефануюць у Смаргонь, раяцца з імі. Першая ліга – гэта ліга прафесійная, тут і заробкі гульцам, і шмат іншых нюансаў. Я баюся сурочыць, таму проста адкажу, што праца ідзе.

Трэніроўкі “Чысць” плануе пачынаць 6 лютага.

– Мне ўжо тэлефануюць хлопцы, пытаюцца, калі прыходзіць на трэніроўкі.

Ёсць нюансы і са стадыёнам.

– Стадыён у Чысці не адпавядае патрабаванням стадыёна ў першай лізе. Я адразу сказаў: “У чым праблема? Будзем гуляць у Маладзечне”. Не праблема арганізаваць падвоз балельшчыкаў з Чысці да Маладзечна.

Мікалай Мятліцкі падкрэсліў, што Чысць і Маладзечна – гэта каманда з аднаго раёна і дзяліць ім няма чаго.

– Мы сябруем і са спартыўнай школай, і плануем запрашаць гуляць футбалістаў з Маладзечна ў каманду, калі на тое будзе іх згода.

Пасля выхадных у Мікалая Мятліцкага запланаваная сустрэча з **Сяргеем Румасам**, старшынёй федэрацыі футбола.

Сачыце за навінамі.

**Наталля ТУР.**

## Віталь Радзівонаў завяршыў кар’еру

Капітан БАТЭ **Віталь Радзівонаў** афіцыйна абвясціў пра завяршэнне кар’еры.

У мінулым сезоне беларускага чэмпіянату ў апошнім матчы супраць “Гарадзеі” менавіта Радзівонаў забіў важны гол на апошніх секундах, які дазволіў БАТЭ зноў заваяваць чэмпіёнскі тытул.

– Прыйшоў час абвясціць, што мінулы год стаў для мяне апошнім у якасці футбаліста БАТЭ. Хачу сказаць дзякуй усім тым, хто знаходзіўся побач са мной цягам усяго гэтага шляху, дапамагаў мне, а часам нават ствараў нейкія перашкоды, што толькі дадавала мне матывацыю, – адзначыў у заяве гулец.

Віталь Радзівонаў, якому 11 снежня споўнілася 34 гады, пачынаў кар’еру ў віцебскім “Лакаматыве-96”, затым гуляў за жодзінскае “Тарпеда”. У БАТЭ перайшоў у 2006 годзе (быў таксама пераезд на некалькі месяцаў у нямецкі “Фрайбург”), 11 разоў станавіўся чэмпіёнам Беларусі. Згуляў за БАТЭ 412 матчаў, забіў 160 мячоў і зрабіў 72 галявыя пасы. Выступаў таксама за нацыянальную зборную.

## Беларусь заявіла аб жаданні прыняць Суперкубак УЕФА у 2020 годзе

Зацікаўленасць у правядзенні Суперкубка УЕФА ў 2020 годзе выказалі дзевяць нацыянальных асацыяцый, у ліку якіх і Беларуская федэрацыя футбола.

Беларусь прапануе правесці матч за Суперкубак УЕФА на мінскім стадыёне “Дынама”, рэканструкцыя якога павінна завяршыцца летам 2018 года. А ў 2019-м тут пройдуць Еўрапейскія гульні.

Пасля разгляду заявак УЕФА зробіць выбар у маі 2018 года.

Зацікаўленасць у правядзенні матча за Суперкубак УЕФА-2020 выказалі: Албанія, Тырана; Беларусь, Мінск; Ізраіль, Хайфа; Казахстан, Алматы; Малдова, Кішынёў; Партугалія, Порту; Паўночная Ірландыя, Белфаст; Фінляндыя, Хельсінкі; Францыя, Ніца.

Суперкубак УЕФА – афіцыйны футбольны турнір, які адкрывае еўрапейскі сезон і які складаецца з аднаго матча, у якім сустракаюцца пераможцы Лігі чэмпіёнаў і Лігі Еўропы папярэдняга сезона. Розыгрыш звычайна праводзіцца ў канцы жніўня. Пераможцамі Суперкубка станавіліся 24 каманды, найбольш тытулаванымі з іх з’яўляюцца італьянскі “Мілан” і іспанская “Барселона”, якія выйгралі па 5 гэтых трафеяў. Першым уладальнікам Суперкубка УЕФА ў 1972 годзе стаў галандскі “Аякс”, цяперашні ўладальнік тытула – мадрыдскі “Рэал”.

У 2018 годзе Суперкубак УЕФА прыме эстонскі Талін, а у 2019 годзе трафей будзе разыграны ў Стамбуле.

**Аддзел інфармацыі.**

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

# Вучыць шахматам трэба дашкольнікаў

**Вывучаючы, як папулярызаваць шахматы ў Беларусі, прыйшлі да крыху нечаканых для сябе, але лагічных высноў.**


Фота about-chess.ru.

Чым раней вы навучыце дзіця шахматам, тым лепш. Зрабіць гэта да школы – слушнае рашэнне.

Аказваецца, мая кніга-брашура “Мат у адзін ход” разлічаная на трохпяцігадовых дзяцей. І хоць па выніках продажаў за паўгода асноўныя прадаўцы, “Белкніга”, зрабілі справаздачу аб ўстойлівых продажах, і ў планах сёлета запусціць другое выданне, усё ж, асноўных пакупнікоў і спажыўцоў кнігі трэба шукаць не ў школах, а ў дзіцячых садках!

Займальна тое, што ў Расіі ўжо распрацавана некалькі рабочых планаў для выкладання шахмат у дзіцячых садках ад 4 да 6 гадоў, і яны паспяхова рэалізуюцца. Свет крочыць сямімільнымі крокамі. Жаданні бацькоў выхаваць вундэркіндаў з пялюшак усё ўзрастае, і ад гэтага расце запатрабаванасць у тым ліку шахматаў. Давайце прасочым працэс амаладжэння гульні на прыкладзе чэмпіёнаў свету.

**Вільгельм Стэйніц** (ням. Wilhelm Steinitz, англ. William Steinitz, 14 мая 1836, Прага – 12 жніўня 1900, Нью-Ёрк) – аўстрыйскі і амерыканскі шахматыст, першы афіцыйны чэмпіён свету па шахматах (1886 – 1894). У *12 гадоў* Вольф пазнаёміўся з шахматамі, захапіўся гульнёй і хутка праявіў заўважны шахматны талент.

**Эмануэль Ласкер** (ням. Emanuel Lasker, у рускіх крыніцах імя часта запісваецца як Эмануіл: 24 снежня 1868 – 11 студзеня 1941) – нямецкі шахматыст і матэматык, прадстаўнік пазіцыйнай школы, другі чэмпіён свету па шахматах (1894 – 1921).

Ласкер захоўваў званне чэмпіёна свету 27 гадоў, што з’яўляецца рэкордным дасягненнем для шахмат, і працягваў выступаць на вышэйшым узроўні да 68 гадоў. У шахматы яго навучыў гуляць старэйшы брат Бертольд, калі будучаму чэмпіёну было *11 год*. Пачынаючы з трэцяга чэмпіёна свету ў свет шахмат урываюцца вундэркінды.

**Хасэ Рауль Капабланка** (ісп. José Raúl Capablanca, 19 лістапада 1888, Гавана – 8 марта 1942 года, Нью-Ёрк) – кубінскі шахматыст, шахматны літаратар, дыпламат, трэці чэмпіён свету па шахматах. У аўтабіяграфіі Капабланка пазней распавядаў, што навучыўся гуляць у шахматы *ў 4 гады*, назіраючы за гульнёй бацькі з калегам. На трэці дзень ён вывучыў, як ходзяць фігуры. Падчас адной з партый звярнуў увагу таты, што той зрабіў ход не па правілах. У той жа дзень сыграў з бацькам партыю і абыграў.

**Аляксандр Алехін** (распаўсюджанае напісанне і вымаўленне “Алёхін” памылковае, 19 (31) кастрычніка 1892, Масква – 24 сакавіка 1946, Эшторыл, Партугалія) – рускі шахматыст, які выступаў за Расійскую імперыю, Савецкую Расію і Францыю, чацверты чэмпіён свету па шахматах. Аляксандра навучыла гуляць у шахматы маці, калі яму было *7 гадоў*.

**Макс Эйве** (20 мая 1901, Ватэрграфсмер – 26 лістапада 1981, Амстэрдам) – нідэрландскі шахматыст і матэматык, пяты чэмпіён свету па шахматах. Макс навучыўся гульні *ў 4 гады* і хутка пачаў перамагаць бацькоў.

**Міхаіл Батвінік** (4 (17) жніўня 1911 – 5 мая 1995, Масква) – савецкі шахматыст, 6-ы ў гісторыі шахмат і 1-ы савецкі чэмпіён свету. З шахматамі пазнаёміўся ва ўзросце *12 гадоў*.

**Васіль Смыслоў** (24 сакавіка 1921, Масква – 27 сакавіка 2010, там жа) – савецкі, пазней расійскі шахматыст. Сёмы чэмпіён свету па шахматах. Навучыўся гульні *ў 6 гадоў*.

**Міхаіл Таль** (латыш. Mihails Tâls, 9 лістапада 1936, Рыга – 28 чэрвеня 1992, Масква) – савецкі і латвійскі шахматыст, восьмы чэмпіён свету па шахматах. Таль навучыўся чытаць у тры гады, меў здольнасці да матэматыкі – у пяць гадоў памнажаў у галаве трохзначныя лічбы). Калі яму было *7 гадоў* (па іншых дадзеных – *10*), бацька навучыў гуляць у шахматы.

**Барыс Спаскі** (30 студзеня 1937, Ленінград, СССР) – савецкі і французскі шахматыст, 10-ы чэмпіён свету. У дзіцячым доме Барыс у *5-гадовым* узросце навучыўся гуляць у шахматы.

**Роберт Джэймс (Бобі) Фішэр** (англ. Robert James Fischer, 9 сакавіка 1943, Чыкага, ЗША – 17 студзеня 2008 года, Рэйк'явік, Ісландыя) – амерыканскі шахматыст, 11-ы чэмпіён свету. Роберту было *6 гадоў*, калі сястра Джоан навучыла гуляць у шахматы.

**Анатоль Карпаў** (23 мая 1951, Златавуст, Чэлябінская вобласць) – савецкі і расійскі шахматыст, дванаццаты чэмпіён свету па шахматах. Гуляць у шахматы яго пачаў вучыць бацька, калі Анатолю было *5 гадоў*.

**Гары Каспараў** (прозвішча пры нараджэнні Вайнштэйн, 13 красавіка 1963, Баку, Азербайджанская ССР) – савецкі і расійскі шахматыст, 13-ы чэмпіён свету па шахматах, шахматны літаратар і палітык. Бацькі Каспарава захапляліся шахматамі, рашалі задачы, якія публікаваліся ў газеце. Гары часта сачыў за гэтым і аднойчы падказаў рашэнне, калі яму было *5 гадоў*. Пасля гэтага бацька навучыў Гары гульні.

**Уладзімір Крамнік** – расійскі шахматыст, 14-ы чэмпіён свету. Шахматны талент Валодзі бацькі заўважылі, калі таму было *3 гады*.

**Вішванатан Ананд** – індыйскі шахматыст, 15-ы чэмпіён свету. З шахматамі Ананд пазнаёміўся ў *6 гадоў*.

**Свен Магнусэн Карлсан** (нарв. Sven MagnusØen Carlsen; 30 лістапада 1990 года, Цёнсберг, губерня Вестфол, Нарвегія) – нарвежскі шахматыст, 16-ы чэмпіён свету па шахматах. Гуляць у шахматы *5-гадовага* Магнуса навучыў бацька.

Пасля экскурсу ў гісторыю шахмат можна прыйсці да высновы, што аптымальны пачатак знаёмства з шахматамі – 4-6 год, яшчэ да школы. Што і патрабавалася даказаць.

Таму, дзіцячыя садкі, трымайцеся! У мяне ёсць прапанова да бацькоў, кіраўнікоў дзіцячых дашкольных устаноў Маладзечна і рэгіёна. Калі ў вас з’явіцца вялікае жаданне, – звяжыцеся са мной праз рэдакцыю і я дапамагу арганізаваць працу з шахматамі ў дзіцячым садку.




**Задача №91 з кнігі Віталя Качаткова “Мат у адзін ход”. Даюць мат пры сваім ходзе і белыя, і чорныя фігуры.**



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Перасоўны шчыт для аховы ад гарачыні ці святла.
4. Думка, меркаванне пра якасць, годнасць, значэнне.
6. Прымяненне, выкарыстанне ў штодзённым жыцці.
8. Гэты фізік хацеў патлумачыць механізм успрымання свету вачыма і для гэтага паставіў дослед на сабе. Увёў у вока тонкі, выразаны са слановай косці стрыжань, адначасова націскнуўшы на тыльную частку вочнага яблыка. Ён убачыў вясёлкавыя кругі і даказаў, што свет, які мы бачым, – вынік ціску святла на сятчатку.
10. Вызначыць, выявіць па нязначных прыкметах.
11. Француз Нале ў сярэдзіне 18 стагоддзя паставіў эксперымент па вылічэнні хуткасці перадачы току. Для гэтага злучыў 200 чалавек металічнымі правадамі і прапусціў паміж імі напружанне. Усе ўдзельнікі эксперыменту ўздрыгнуліся практычна адначасова, з чаго Нале зрабіў выснову: ток бяжыць па правадах ну ве-е-ельмі хутка. Кім былі ўдзельнікі эксперыменту.
12. Стан прыўзнятага настрою, бестурботнасці.
13. Жанчына, якая не выйшла замуж пасля смерці мужа.
15. Узор, у аснове якога ляжаць геаметрычныя, раслінныя і жывёльныя матывы, што паўтараюцца ў строга вытрыманым стылі.
17. Вакальны твор для аднаго голасу.
19. Калі з вады выдаліць іх, то яна ператворыцца з праваднікa ў дыэлектрык.
20. Сумесная работа на марскім судне, у якой удзельнічае ўся каманда.
21. Варта.
22. Гэты старажытнагрэчаскі філосаф стварыў кубак, які можна напоўніць напоем толькі да пэўнай рыскі. Калі яе перавысіць хоць на кроплю, змесціва кубка выцякае.
26. Група цыганскіх сем’яў, якія качуюць разам.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Мука з ачышчанага пражанага аўса.
3. Тонкія вузкія спіралепадобныя палоскі драўніны.
5. Прамы ўдар, які робіць прабоіну.
7. Махляр.
9. Трапічны цыклон, ураган вялікай разбуральнай сілы.
11. Назва сыравэнджанай кілбасы гатунку салямі Ашмянскага мясакамбіната.
14. Парны бальны танец свабоднай кампазіцыі з энергічным, выразным рытмам.
16. Час сутак ад канца ночы да пачатку дня.
18. Доўгі, перарывісты гул, грукатанне.
23. Паводле адной версіі, калі гэта прыстасаванне падае, выжыць у ім магчыма, падскокнуўшы перад сутыкненнем. Аднак прадбачыць гэты момант немагчыма, таму больш разумна легчы на падлогу, каб павялічыць плошчу сутыкнення з ім і каб удар быў накіраваны не на адзін участак цела, а размеркаваўся па ўсёй паверхні.
24. Уладзімір Някляеў: “Не дазволь пайсці мне, … Рукі на грудзях скрыжуй стамлёна… Хай сабе не варты я праклёну – Праклінай”.
25. Вугламерны інструмент, які даўней выкарыстоўваўся для вызначэння становішча нябесных цел.
27. Натуральная форма вадкасці.

## Адказы на крыжаванку з №2

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Біткойны. 3. Мужа. 4. Кісларод. 6. Ігрэк. 9. Ілюзія. 10. Аправа. 11. Частата. 16. Апякун. 19. Якуб. 20. Аркестр. 23. Антарктыда. 24. Чарот.
**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Кадзіла. 5. Жалюзі. 7. Аральскае. 8. Карп. 11. Чай. 12. Казус. 13. Чапяла. 14. Сцежка. 15. Фаэтон. 17. Рукаў. 18. Астылы. 21. Арарат. 22. Кавалер.


## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**
“**Шукаю сапраўднага мужчыну**” (камедыя ў 2-х дзеях) 16+, *Алена Папова*
21 студзеня – у 17:00
“**Прыгажуні**” (амерыканская камедыя) 16+
26 студзеня – у 19:00
“**№13**” (камедыя ў 2-х дзеях) 16+, *Рэй Куні*
28 студзеня – у 17:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***
Кантактныя тэлефоны:
**74-63-86** – намеснік дырэктара,
**74-63-88** – галоўны адміністратар,
**74-63-85** – каса.
E-mail:
modt@tut.by, www.theatre-modt.by
УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**
“**Шчаўкунчык**” (калядная казка), Э.Т.А.Гофман (рус.)
21 студзеня – у 12:00
“**Залатая табакерка**” (казка-жарт), А.Плютава
28 студзеня – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
**Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.**
Тэл. (8-0176) **74-62-19**, **50-56-96**. УНП 600136804


## ГАРАСКОП 19-25 СТУДЗЕНЯ



**АВЕН.** Стрэлкі касмічных гадзіннікаў ўказваюць на тое, што вы павінны звярнуць асаблівую ўвагу на сваё ўласнае здароўе. Займіцеся сабой, як кажуць, па поўнай праграме.



**ЦЯЛЕЦ.** Спрыяльны перыяд, ён дазволіць закласці асновы дабрабыту на будучыню. І не забывайце пра адпачынак. Ён вельмі карысны не толькі для ўзнаўлення фізічных сіл, але і для атрымання ўнутранага адзінства, што дае вам магчымасць шырэй глядзець на рэчы і атрымоўваць больш значныя вынікі.



**БЛІЗНЯТЫ.** Усе гэтыя дні вам прыйдзецца круціць кола Фартуны ў свой бок. Задача гэта хоць і прыемная, але няпростая. Ад вас запатрабуюцца актыўныя і рашучыя дзеянні, ініцыятыўнасць і напорыстасць у справах. Ідэі, якія ўзнікнуць, будуць лёгкія ў выкананні і прынясуць поспех, таму добра запомніце іх і адразу ўвасабляйце ў жыццё.



**РАК.** Вы прыйдзеце да неабходнага рашэння, узважыце ўсе “за” і “супраць” і вызначыцеся са сваёй канчатковай мэтай. Менавіта ў гэтыя дні ёсць шанец прыняць жыццёва важнае рашэнне, якое паўплывае на ваш далейшы лёс. Хутчэй за ўсё, такое рашэнне будзе звязанае з асабістымі адносінамі.



**ЛЕЎ.** Што пасееш, тое і пажнеш – менавіта так будуць развівацца падзеі. Калі вас не задавальняе стан спраў, прыміце меры. Не ўсё ў жыцці круціцца вакол грошай.



**ДЗЕВА.** Могуць узнікнуць праблемы ў адносінах з дзелавымі партнёрамі. Будзьце стрыманыя і карэктныя, калі не хочаце рваць сувязі.



**ШАЛІ.** Адбываецца стабілізацыя ва ўсім, што, з аднаго боку, дазваляе быць упэўненым, але не дае магчымасцяў сур’ёзнага і імклівага росту. У гэты час з’явіцца надзеі на светлую будучыню, што ў сукупнасці з іншымі фактарамі дасць вам унутраныя сілы для далейшага руху.



**СКАРПІЁН.** Ад вас патрабуецца поўная самаадддача на працы. Спачатку справа, потым атрыманне дывідэндаў, а ўсё астатняе складзецца само па сабе.



**СТРАЛЕЦ.** З самага панядзелка вам будзе жыццё ўсміхацца. Каб не “спатыкнуцца” ў фінансавых пытаннях, не губляйце пільнасці. Ямчэй вам зоркі раяць не займацца нічым, што магло б нашкодзіць вашай рэпутацыі. Не ўлазьце ў тайныя справы, інтрыгі. Дзейнічайце сумленна і законна.



**КАЗЯРОГ.** Гэты тыдзень можа аказацца адным з самых цікавых у годзе. Ён звязаны з псіхалогіяй і інтуіцыяй – адбываецца трэніроўка гэтых якасцяў у экстрэмальных абставінах. З’явяцца новыя сілы.



**ВАДАЛЕЙ.** Вас чакае эмацыйны ўздым, магчыма, новае моцнае пачуццё, развіццё адносін і іншыя рамантычныя прыгоды. Ёсць верагоднасць таго, што лёгкае захапленне можа перарасці ў нешта значна больш сур’ёзнае і працяглае. Але да гэтага трэба сябе падрыхтаваць, адпачыць ад мінулых перажыванняў, зразумець свае ўнутраныя матывы, устанавіць прыярытэты і мэты ў жыцці.



**РЫБЫ.** Выдатны перыяд, аднолькава добры як для новых спраў, так і для завяршэння старых. Вам шанцуе ва ўсім, карыстайцеся гэтым, каб дасягнуць поспеху.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | | | | | | |
| | | | 2 | | 3 | | 8 | |
| | 7 | | | 5 | | | | |
| 8 | | 2 | | | | | | |
| | | | | | | | | 5 |
| | | | 9 | | | 7 | | 4 |
| 9 | | | | | | | 3 | |
| | | | | 4 | 2 | | | |
| | 1 | | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

## НАДВОР'Е

### 20 студзеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -6 / -4 | | -6 / -7 | | -6 / -7 | | -11 / -11 | |
| | 728 | ↙ 2 | 732 | → 5 | 736 | ↖ 4 | 738 | ↘ 5 |
| Вільня | -6 / -4 | | -8 / -5 | | -7 / -6 | | -12 / -11 | |
| | 736 | ↓ 3 | 739 | ↙ 4 | 743 | ↘ 3 | 746 | ↘ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 9.18
Захад 17.29
Даўжыня дня 8.11

Усход 10.51
Захад 21,12
Квадра 1

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | -5 / -4 | 736 | → 4 |
| Гродна | -5 / -5 | 742 | → 4 |
| Мінск | -6 / -7 | 732 | → 5 |
| Магілёў | -5 / -5 | 737 | → 6 |
| Брэст | -4 / -2 | 747 | → 3 |
| Гомель | -4 / -3 | 742 | ↗ 6 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -28,1 °С у 2006 годзе
Максімальная тэмпература +5,8 °С у 1993 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 5,5 мм у 1990 годзе
Паводле meteoinfo.by

ОкнаХом
ГАРАНТИЯ КАЧЕСТВА
8033 340-06-06
8029 340-06-06
ОКНА и ДВЕРИ ПВХ
ДВЕРИ МЕЖКОМНАТНЫЕ и МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ
скидки 30%
РАССРОЧКА без первоначального взноса до 12 месяцев!
ЛИДЕР 2017
УНП 691403311

ТЁПЛЫЕ ОКОННЫЕ ТЕХНОЛОГИИ
НЕМЕЦКИЙ ПРОФИЛЬ НЕМЕЦКАЯ ФУРНИТУРА
ОКНА ДВЕРИ РАМЫ
НИЗКИЕ ЦЕНЫ ВЫСОКОЕ КАЧЕСТВО!
РАССРОЧКА
www.oknam.by
УНП 192389248
8029 260-33-19 8029 672-72-78

## Каляндар агародніка-2018

У наступным нумары для ўсіх садаводаў і агароднікаў рэгіёна мы прапануем наш традыцыйны КАЛЯНДАР САДАВОДА І АГАРОДНІКА. Складзены адпаведна геаграфічным каардынатам і прыродным умовам. І няхай вашы ўраджаі садавіны і агародніны не перастаюць радаваць вас.

Рэклама ў "РГ"
(80176) 53-78-04
reklama@rh.by

Прафесіональная
РЕСТАВРАЦИЯ ЭМАЛИ ВАНН
Сантехнические работы
Стаж – 15 лет
ИП Кочкин А. А. УНН 190793011
(8029) 989-56-67
(8029) 553-73-34
(80176) 50-10-18

## Усцеш сябе добрымі адзнакамі – і зарабі планшэт

Зіма нарэшце нагадала пра сябе. Жадаем, каб сярод зімовых гульняў, лыжаў ды канькоў, вы знаходзілі час для вучобы.

Вам ёсць 12 год, вучыцеся ў школе ці гімназіі і маеце адзнакі "9" ці "10" па любым з прадметаў? Чаго ж вы чакаеце, далучайцеся да акцыі "Дзясятачка"!

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі любой школы ці гімназіі рэгіёна.

Няхай удзельнічаюць і аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Вы можаце дасылаць адзнакі, заробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Вучні ўсім класам, калі яны былі самыя актыўныя, пойдуць у піцэрыю.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№3)

1. Імя, прозвішча____________________
2. Дата нараджэння ____________________
3. Клас
Школа____________________
4. Населены пункт____________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ____________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ____________________
9. Імя, імя па бацьку ____________________
10. Прозвішча настаўніка ____________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам__________
12. Подпіс настаўніка____________________

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Прыгадайце самы запамінальны запіс у сваім школьным дзённіку



**Таццяна Касіла, бібліятэкарка:**

– У школе я была актывісткай. Аднойчы ў сёмым класе паехала на раённае мерапрыемства, і наша каманда перамагла. За гэта дырэктар школы напісаў у дзённіку "Дзякую бацькам за дачку Таццяну".



**Дзяніс Кір'янаў, менеджар:**

– Шмат такіх запісаў было. Але чамусьці помніцца, як мы ў знак нейкага пратэсту ўсім класам сышлі з урока хіміі. Тады ў дзённіку з'явіўся запіс "Запрашаем бацькоў у школу".



**Валянціна Палянская, прыбіральшчыца:**

– Часта былі запісы пра дрэнныя паводзіны. І хоць баялася, бо бацькі сварыліся за гэта, але зрабіць са сваімі паводзінамі нічога не магла.



**Ілля Смолкін, лагіст:**

– Была ў нас традыцыя: у канцы навучальнага года пісаць у дзённіку розныя пажаданні. Мой аднакласнік дзяўчынцы, з якой увесь час сварыўся, напісаў, што яна добрая, прыгожая, што будзе сумаваць без яе на канікулах. Я тады сказаў, што ён крывадушнік. А ён адказаў: "Не крывадушнік, а дыпламат".



**Яна Трацэўская, вучаніца:**

– У канцы года сяброўка пажартавала. Напісала заўвагу за выдатна выкананае дамашняе заданне.



**Анастасія Лазар, у дэкрэтным адпачынку:**

– Настаўнік фізкультуры напісаў: "Не падрыхтавалася да ўрока". Напісаў бледным блакітным стрыжнем. А я ў гэты дзень атрымала тры дзясяткі. За дзясяткамі бледны надпіс фізрука бацькі нават не заўважылі.



**Таццяна Іваненка, настаўніца:**

– Памятаю гісторыю сяброўкі. Пакрыўдзіўшыся на заўвагу настаўніцы, яна ўскочыла і выбегла з класа. За што атрымала запіс у дзённік: "Бацькі! Ваша дачка збегла з урокаў. Паводзіны – два". Дзяўчынка хутка астыла, зайшла ў клас і папрасіла прабачэння. Побач з першым запісам з'явіўся другі: "Адумалася, вярнулася. Стараннасць – пяць".

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№3 (1186) 19.01.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 63. Падпісана ў друк у 9.00 18.01.2018.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.